


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

13 снежня 2002 года

№ 50 (399)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

**Навіны рэгіёна**

## На канікулы – за мяжу

**ВАЛОЖЫН**. 49 выхаванцаў школы-інтэрната атрымалі запрашэнні на калядныя канікулы за мяжу.
Цэлы месяц яны правядуць у італьянскіх і ірландскіх сем'ях. Для некаторых канікулы пачаліся ўжо ў панядзелак. Менавіта ў гэты дзень адправілі ў замежжа першую групу дзяцей.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Памёр ад пераахалоджвання

**МАЛАДЗЕЧНА**. 6 снежня ў рэанімацыі гарадской бальніцы памёр ад агульнага пераахалоджвання мужчына 1926 года нараджэння.
Дзядуля жыў адзін у Хажове, адкуль яго і прывезла "хуткая дапамога".

**Ірына РАБУШКА.**

## Разбіраюць найдаражэйшыя пуцёўкі

**МЯДЗЕЛ**. Нятанна абыдзецца сустрэць Новы год на Нарачы. У турыстычнай гасцініцы "Нарач" тур на двое сутак будзе каштаваць ад 140 тысяч рублёў да 264 тысяч у залежнасці ад умоў пражывання. Што цікава, хутчэй разбіраюць найдаражэйшыя пуцёўкі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Новы дырэктар філіяла банка

**СМАРГОНЬ**. Дырэктарам мясцовага аддзялення філіяла ААБ "Беларусбанк" прызначылі **Юрыя Захарава**.
Ён нарадзіўся ў 1969 годзе ў Смаргоні ў сям'і ваеннаслужачага. Закончыў мясцовую СШ №4. У 1999 годзе закончыў інстытут народнай гаспадаркі імя Куйбышава. Апошнія 3 гады ўзначальваў аддзел па рабоце з юрыдычнымі асобамі смаргонскага філіяла "Беларусбанка".
Былы дырэктар філіяла **Ірына Шостак** пайшла на пенсію.

**Ірына РАБУШКА.**

## «Круглы стол» з амерыканцамі

**ВІЛЕЙКА**. 11 снежня адбыўся выніковы "круглы стол" па рэалізацыі праекта "Стварэнне клуба грамадскасці "Віляйчане".
Самымі гучнымі мерапрыемствамі клуба сталі збор прадуктаў і канцэрт для інвалідаў. Паседжанне "круглага стала" наведалі прадстаўнікі агенцтва ЗША па міжнародным развіцці.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

# Зарплата – у банкамаце

**МАЛАДЗЕЧНА. Каб знізіць інфляцыю, аблвыканком, гарвыканком і Нацыянальны банк сваімі распараджэннямі пераводзяць работнікаў бюджэтнай сферы на іншую сістэму атрымання зарплаты.**

Замест наяўных грошай прапануюць безнаяўныя. У дзень зарплаты рабочаму не трэба ісці ў бухгалтэрыю, у яго ёсць рахунак у банку і пластыкавая картка. Ён прыходзіць у банк і здымае столькі грошай, колькі патрэбна. Работнікі гарвыканкома ўжо так і працуюць. З новага года да новай сістэмы далучаць работнікаў усіх маладзечанскіх школ. А ў перспектыве плануецца ахапіць большасць з нас.

Які сэнс у гэтым? Тлумачыць работнік ААБ "Беларусбанк" **Уладзімір Грыгор'еў**:

– Гэтая мера накіраваная ў першую чаргу на тое, каб знізіць інфляцыю. Штомесяц прадпрыемствы даюць сваім работнікам наяўныя грошы, не ўсе круцяцца ў гандлёвым абароце, бо многія стараюцца зберагчы свае грошы і купляюць замежную валюту, якая ляжыць дома. Таму Нацыянальны банк, каб забяспечыць усіх наяўнымі грашыма, вымушаны дадрукоўваць грошы. І беларускі рубель такім чынам пастаянна абясцэньваецца.

### Каментарый

Гэта выгадна банкам. Рахункі ў банках па розных прычынах маюць не ўсе. А цяпер кожны настаўнік ці тэхнічны работнік школы будзе захоўваць грошы на рахунку. Пластыкавыя карткі даюць зручнасці і спажыўцам. Не трэба стаяць у чэргах у бухгалтэрыі. На астатак штомесяц налічваецца банкаўскі працэнт. Грошы можна атрымаць у любым горадзе Беларусі і ў любы час.




Юрый Капуцкі працуе інспектарам у энерганаглядзе. Другі год атрымлівае зарплату па картцы. Гаворыць, што ніякіх збояў не было, акрамя гэтага аўторка.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Пытанні «ў тэму»

**– Якая гарантыя, што грошы з карткі не зніме нехта іншы?**

– Каб зняць грошы з карткі, трэба набраць код з 4-х лічбаў, які даюць кожнаму кліенту ў банку разам з карткай. Калі ў вас укралі картку, то без ведання кода грошы забраць немагчыма. Калі вы згубілі яе, трэба патэлефанаваць у банк, і яе заблакіруюць.

**– Ці трэба плаціць за картку?**

– Усе выдаткі нясе банк. Кліент плаціць палову базавай велічыні толькі за новую картку, якую зробяць узамен згубленай.

**– Што трэба рабіць, калі вы забыліся код?**

– Картка заблакіруецца, калі на працягу 2 гадоў (тэрмін дзеяння карткі) код няправільна набралі 3 разы. Разблакіраваць картку можна, калі патэлефанаваць у банк, назваць слова-пароль, якое вы ўкажаце пры афармленні дакументаў на атрыманне карткі.

**– Ці могуць скончыцца грошы ў банкамаце?**

– Могуць. Тады трэба ісці ў пост-тэрмінал, які працуе ва ўсе дні, акрамя нядзелі. Яны размешчаныя ў банках, а там грошай вам дакладна хопіць.

**Падрыхтавалі Ірына РАБУШКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

### Не можа жыць без работы

Загадчыца 3-га тэрапеўтычнага аддзялення Маладзечанскай гарадской паліклінікі Галіна Малышка расказвае аб медыцынскіх буднях і не толькі.



4-я старонка

### Вільня – старажытная сталіца

Стары горад, музеі, касцёлы, безліч рэстаранаў і кафе – гэтым прыцягвае Вільня турыстаў. Ёсць тут і беларускі музей.



5-я старонка

### Бабраўнікі – вёска з музеем

Экскурсію па вёсцы Бабраўнікі Астравецкага раёна праводзіць загадчыца Бабраўніцкай бібліятэкі-музея Зоя Комар.



8-я старонка

■ ДАТЫ

## Юбілей парафіі

**МЯДЗЕЛ. 6 снежня ў Свіры адзначылі 550-годдзе мясцовай парафіі Святога Мікалая. Сабраліся мясцовыя вернікі, прыехалі святары з Мядзельшчыны, Вільні, Польшчы.**

Святую імшу адправіў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзі Кірыл Клімовіч. З нагоды юбілею ў Свір прывезлі благаславенне ад Папы Рымскага Яна Паўла II. А дзеці, якія на свяце было шмат, атрымалі падарункі "ад Святога Мікалая".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ЗДАРЭННІ

## Засыпала зямлёй

**ВІЛЕЙКА. 9 снежня на рабоце загінуў 23-гадовы муляр гарадскога вытворчага аб'яднання "Жыллёва-камунальная гаспадарка" (ГВА ЖКГ) Віктар М.**

Трагедыя здарылася ў мястэчку Шалавічы падчас пракладкі каналізацыі каля кацельні. Брыгадзе засталося пракласці апошнюю трубу, калі абрынуўся бераг канавы, і велізарная груда замерзлай зямлі прыціснула ахвяру. Рабочыя пачалі разбіваць яе ламамі, але выратаваць Віктара не змаглі.

Па словах інспектара па тэхніцы бяспекі **Уладзіміра Мікішкі** і следчага Вілейскай міжраённай пракуратуры **Дзмітрыя Кебеца**, яшчэ рана казаць пра прычыны здарэння, захоўванне правіл тэхнікі бяспекі падчас работы і ўзбуджэнне крымінальнай справы, таму што следства знаходзіцца толькі на этапе збору інфармацыі.

Віктар М. закончыў 9 класаў у СШ №4, потым вучыўся ў ПТВ-124, служыў у войску ў Маладзечне. Нежанаты. У ГВА ЖКГ Віктар М. адпрацаваў толькі 4 месяцы. За гэты час паспеў зарэкамендаваць сябе з добрага боку.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ПАЕЗДКІ

## Валожынец на «Полі цудаў»

**ВАЛОЖЫН. Цяслярр Раман Петрыкаў будзе гуляць у "Полі цудаў" з Леанідам Якубовічам.**

У кастрычніку ён паслаў сваю крыжаванку на перадачу. І напачатку снежня прыйшла тэлеграма-выклік. Учора была гутарка. Заўтра і паслязаўтра – здымкі праграмы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ КОНКУРСЫ

## Фотаапарат за даследаванні

**МЯДЗЕЛ. Адзінаццацікласніца Мядзельскай СШ №3 Марына Лойка заняла трэцяе месца на конкурсе малой гісторыі "Гісторыя з паштовай скрынкі".**

Яна атрымала Дыплом III ступені і фотаапарат. Тычылася яе работа лістоў з фронту нашых землякоў і фатаграфій з сямейнага архіва.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СУВЯЗІ

# У «Надзею» – з падарункамі

**ВІЛЕЙКА. У канцы лістапада група футбалістаў-ветэранаў на чале з прэзідэнтам Беларускай федэрацыі футбола Рыгорам Фёдаравым наведала дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр "Надзея".**

Тут адбыўся таварыскі матч паміж дзіцячай камандай "Надзеі" і камандай ветэранаў, у склад якой увайшлі знакамітыя Юрый Курбыка, Віктар Сокал, Ігар Бялоў, спявак Дзмітрый Смольскі і іншыя. З лікам 10:8 перамаглі госці. Футбалісты падарылі дзецям больш дваццаці футбольных мячоў і камплект футбольнай формы ад фірмы "Puma".

Да гэтага часу ветэраны футбола практыкавалі таварыскія сустрэчы ў асноўным з калектывамі недзіцячых устаноў і прадпрыемстваў. Госці адкрылі для сябе, што яны могуць выкарыстоўваць свой патэнцыял у выхаванні дзяцей. Футбалісты вельмі высока ацанілі ўзровень працы і аснашчэнне "Надзеі". Асобна яны гаварылі пра новую спартыўную залу, у якой ёсць месцы для гледачоў.

Па словах дырэктара дзіцячага цэнтра "Надзея" **Вячаслава Макушынскага**, важна не столькі тое, што аказана вельмі значная матэрыяльная дапамога для арганізацыі спартыўна-масавай работы, але найбольш важны сам факт сустрэчы ветэранаў з дзецьмі.

Ідэя прыезду ветэранаў футбола ў цэнтр узнікла ў верасні 2002 года на сустрэчы кіраўніцтва Беларускай федэрацыі футбола з прадстаўнікамі фірмы "Puma", якая з аднаго боку з'яўляецца афіцыйным фундатарам зборнай каманды Беларусі, а з іншага боку ўжо раней дапамагала "Надзеі". Сярод іншых пытанняў на сустрэчы абмяркоўваліся праблемы папулярызацыі футбола і арганізацыі гэтай працы з прыцягненнем пастаянна дзеючай каманды ветэранаў беларускага футбола.



Чэмпіён СССР па футболе Юрый Курбыка і яго жонка Ірына Данская ў дзіцячым цэнтры "Надзея". Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

### Юрый Курбыка: "Прывітанне Вілейцы!"

У складзе дэлегацыі ветэранаў-футбалістаў прысутнічалі віцэ-прэзідэнт Беларускай федэрацыі футбола Юрый Курбыка і яго жонка, урач Ірына Данская. Яны адказалі на некалькі пытанняў для "РГ".

**– Ці крыўдна Вам, як футбалісту, глядзець на інтэнсіўнае будаўніцтва лядовых палацаў, а не крытых футбольных манежаў?**

– Не крыўдна. Крытыя манежы патрэбны толькі зімой для падрыхтоўкі да сезона каманд майстроў. Цяпер будуецца адзін крыты манеж. Ягонае адкрыццё значна здыме праблему. Калі з'явіцца яшчэ адзін гэткі ў Беларусі – будзе зусім дастаткова. Цяпер больш патрэбныя футбольныя палі са штучным пакрыццём.

**– Вядома, што Вы маеце пэўную сувязь з Вілейкай.**

– Мая мама родам з Вілейкі. Хоць нарадзіўся я ў Мінску, у Вілейцы правёў практычна ўсё дзяцінства, першы клас закончыў у Вілейскай СШ № 2, прыязджаў сюды на канікулы аж да 10-га класа.

**– Як Вілейка паўплывала на футбольную кар'еру?**

– У тыя часы за ракой Віліяй мы, дзеці, самі зрабілі стадыён. Прызнаным майстрам сярод нас быў Аляксандр Бахар, які цяпер працуе выкладчыкам у Вілейскім тэхнікуме бізнесу і права. Усе хацелі быць падобнымі на яго. Я лічу яго ў пэўнай ступені сваім настаўнікам. Тады ён казаў, што мне трэба быць не палявым іграком, а варатаром. Склалася так, што Аляксандр прадвызначыў мой лёс. Летась мы прыязджалі на развітальны матч, які ён арганізаваў. Хачу перадаць яму праз газету вялікае прывітанне. Таксама вялікае прывітанне Вілейцы. Я яе люблю і памятаю. Прывітанне ўсім тым, з кім некалі мы гулялі ў футбол.

**– Якія ўражанні ад цэнтра "Надзея" і ад сустрэчы з дзецьмі?**

Ірына Данская:

– Гэты прыезд ветэранаў – вельмі важная падзея для дзяцей. Яны вельмі чакалі сустрэчы, рыхтаваліся да матча і, вядома, шчыра хацелі перамагчы. Калі ў пачатку гульні з лікам 4:0 выйгравалі ветэраны, я вельмі хвалявалася і першы раз жадала, каб мужу забілі гол. Трэба, каб гэткіх цэнтраў, дзе дзеці маглі б адпачываць, аздараўлівацца, вучыцца, было болей.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ПРАБЛЕМА

# Ці ўспомняць пра рускіх салдат?

**МЯДЗЕЛ. Калі праязджаеш па раёне, няцяжка натрапіць на могілкі нямецкіх салдат першай сусветнай вайны.**

Стаяць шарэнгамі крыжы Гансам, Куртам, Йоганам, узвышаюцца помнікі прыкладна з такімі надпісамі па-нямецку: "Героям 250-га рэзервнага пяхотнага палка". Усё гэта напамін пра Нарачанскую аперацыю. Вось толькі помнікаў рускім салдатам, якіх падчас аперацыі загінула нашмат больш за немцаў, вельмі мала. Як тут былі палякі, то яны пры перазахаванні немцаў паставілі крыж і аднаму рускаму. Ёсць яшчэ помнікі ў Княгініне салдатам, памерлым у шпіталі, у вёсцы Баяры, некалькі сціплых мемарыяльных знакаў на месцы брацкіх магіл, але зусім без імёнаў і прозвішчаў. І ў асноўным – гэта ўласная ініцыятыва (прыкладам, у Баярах – **Антона Бляўскага**), а вось дзяржава ад справы ўвекавечвання памяці палеглых салдат ўхілілася.

Мядзельца **Генадзя Малышава** такое становішча вельмі непакоіць. А пачаў ён цікавіцца лёсам загінуўшых воінаў са знаходкі каля вёскі Занарач:

– Адшукаў салдацкі медальён: плоская каробачка, а ўсярэдзіне – счарнелая ад часу паперка з надпісам "Саратаўская губ., Саратаўскі ўезд, вёска Аляксеўка, Платон Сямёнаў, праваслаўны, халасты". Я быў узрушаны: знайсці праз столькі год салдацкую запіску, прачытаць...

Зразумела, чаму гэтыя гады лёсам рускіх салдат ніхто не цікавіўся: рэвалюцыя, потым прыйшлі сюды палякі. Нямецкіх салдат тыя перазахоўвалі за германскія грошы, а бальшавікоў жа гэта не цікавіла: яны ж вайну лічылі імперыялістычнай. Потым другая сусветная – загінуўшых падчас не трэба было спарадкаваць. Праўда, у канцы 80-х зрабілі спробу нешта змяніць. Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР у афіцыйным заключэнні цалкам падтрымаў прапанову аб стварэнні ў раёне возера Нарач мемарыяла ў гонар расійскіх воінаў, што загінулі ў першую сусветную вайну. Дзеля збору сродкаў на гэтыя мэты адкрылі рахунак, людзі ахвяравалі грошы: так, работнікі завода "Інтэграл" і іншых дзённы заробак на яго пералічылі. Невядома, колькі грошай сабралі і куды яны падзеліся, бо на месцах баёў з'явілася толькі некалькі таблічак для абазначэння захаванняў.

Генадзь Малышаў працягвае трымаць пад увагай праблему.

**– Што збіраецеся прадпрымаць?**

– Буду ўздымаць гэтае пытанне, пакуль салдаты не будуць пахаваны па-людску. Яны загінулі на нашай тэрыторыі, і па законах міжнародных і чалавечых мы павінны займацца іх захаваннем, тым больш, там і беларусаў шмат палягло. Але ўсё залежыць ад культуры нацыі: вунь у Латвіі стаяць крыжы рускім салдатам першай



Нямецкія могілкі пад Буйкамі. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

сусветнай, а ў нас... Што ж, калі Беларусь не ў стане пахаваць воінаў, буду звяртацца ў адміністрацыю прэзідэнта Пуціна. Рады, што ён прызнаў цяперашнюю армію Расіі правапераемніцай той арміі, можа, нарэшце, там зацікавяцца лёсам сваіх салдат. Уявіце: ішлі маладыя людзі на вайну, размешчалі вярнуцца дадому ці, у горшым выпадку, што іх пахаваюць належна. А мы сваім бяспамяцтвам забіваем іх яшчэ раз. Ды хто ж мы такія пасля гэтага?

### З гісторыі першай сусветнай вайны

Нарачанская аперацыя распачалася 18 сакавіка 1916 года. Па просьбе Францыі рускія войскі пачалі непадрыхтаванае наступленне, каб адцягнуць увагу нямецкіх войскаў ад Парыжа. Галоўны ўдар наносіла 2-я армія. Ёй ставілася задача прарваць фронт 10-й нямецкай арміі ў цясніне паміж азёрамі Вішнеўскае і Нарач. Рускія мелі перавагу ў жывой сіле амаль у 5 разоў, у 2 разы – у цяжкай артылерыі і кавалерыі. Аднак сказаліся кепскае матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне і няўмелае камандаванне. За 10 дзён цяжкіх баёў рускія войскі адваявалі 10 квадратных вёрст. Страты панеслі вялікія: загінула больш за 80 тысяч салдат і афіцэраў, у нямецкай арміі – 30-40 тысяч.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Зімой будзе холадна

**ВІЛЕЙКА. Магчыма, не ўсім, бо з гарачым водазабеспячэннем у вілейскіх кватэрах больш-менш нармальна, але некаторым...**

Жыхары кааператыўнага дома №14 корпуса 1 па вуліцы Гагарына маюць перабоі з цяплом і гарачай вадой не першы год. Але, калі такія праблемы былі ва ўсёй Вілейцы, тады было не так крыўдна. Летась у вілейскія кватэры прыйшла гарачая вада. А жыхары дома №14, каб прыняць ванну, грэюць ваду і цяпер. Нягледзячы на тое, што ў суседніх дамах праблем з гарачай вадой і цяплом няма.

Рахункі за ваду і ацяпленне паступаюць рэгулярна. І большасць жыльцоў штомесяц плаціць за паслугі, якіх фактычна не атрымлівае.

Гэты дом ведаюць у мясцовым "Камунальніку" даўно, бо скаргі ад жыльцоў дома паступаюць з пачаткам кожнага ацяпляльнага сезона. Вось каментарый галоўнага інжынера Вілейскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Аляксандра Фядорчанкі**:



**Жыхар дома №14 па вуліцы Гагарына ў Вілейцы Іван Дубаневіч нарэшце парадуецца гарачай вадзе ў сваёй кватэры.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Дом у пачатку 90-х гадоў будаваў "Зеніт". Устаноўлена, што пры пабудове дапусцілі парушэнні, якія і з'яўляюцца прычынай такога становішча. Вада, якая даходзіць да дома, не халаднейшая, чым у іншых дамах. Але гэты дом "прастужаны" і дрэнна трымае цяпло. Акрамя таго, дакладна вядома, што вада астывае ва ўнутранай сетцы гэтага дома. Дзе і чаму – павінныя рашаць спецыялісты, якія маюць на гэта дазвол і ліцэнзію.

Адзіная парада ад нас – правесці з дапамогай спецыялізаваных арганізацый дэталёвую экспертызу дома. Калі будзе вядомая прычына страты тэмпературы, то можна будзе нешта паправіць. Але толькі за кошт членаў кааператыву. Наша арганізацыя грашамі дапамагчы не зможа.

Вядучы інжынер цеплавых сетак **Валянцін Капцюг** зазначыў, што ў гэтым ацяпляльным сезоне здараліся перабоі з ціскам, пад якім падаецца гарачая вада. Гэта прыводзіць да таго, што кватэры астываюць. І ад віляйчанаў у ЖКГ ішлі скаргі. Праблемы з ціскам не выключаныя і далей.

А ў доме №14 на мінулых выхадных нарэшце з'явілася гарачая вада, затое астылі батарэі.

За камунальныя паслугі жыхары гэтага дома могуць плаціць меней. Аляксандр Фядорчанка параіў жыльцам звярнуцца ў ЖКГ з просьбай замераць тэмпературу гарачай вады ў ацяпляльных батарэях і водаправодных кранах. Камунальнікі збяруць камісію і правядуць абследаванне. У выпадку адхілення ад нормы разлікі аплаты за падагрэў вады і ацяпленне правядуць, зыходзячы з фактычнай тэмпературы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Амаль рэальны эканамічны прагноз

Нядаўна прэзідэнт краіны зацвердзіў падрыхтаваныя Нацыянальным банкам асноўныя накірункі грашова-крэдытнай палітыкі на 2003 год.

Курс беларускай валюты на канец наступнага года ў адносінах да расійскага рубля павінны скласці 63,38-66,20 беларускіх рублёў, у адносінах да долара – 2250-2350 беларускіх рублёў. Стаўку рэфінансавання плануецца ўтрымаць ў памеры 28-32% гадавых, чыстыя рэзервы банка краіны ацэньваюцца прыкладна ў 300 мільёнаў долараў. Каб пракаментаваць пералічаныя прагнозныя паказчыкі Нацбанка краіны, трэба прааналізаваць дасягнутыя параметры бягучага года.

З курсам беларускага рубля праблем бачыцца бы няма — прагназуемы на 2002 год узровень у 1920 рублёў за долар удаецца захаваць. І практычна не важна, што наяўнымі за долар просяць ужо 1940-1950 рублёў. Адхіленне ад прагнознага паказчыка на 2-3% лічыцца дапушчальным згодна з прынятым параметрам праграмы. Адмоўным фактарам акрамя зніжэння паступленняў валютнай выручкі экспарцёраў з-за зніжэння цэн і пагаршэння знешнегандлёвай кан'юнктуры з'яўляецца і традыцыйнае мінусавае сальда па дылінгавых аперацыях на ўнутраным рынку. Насельніцтва краіны па-ранейшаму штомесяц купляе на 30 мільёнаў долараў больш, чым прадае. Станоўчыя моманты можа ўнесці толькі пры складанні прагнозу традыцыйная дапамога расійскага Цэнтрабанка, якая праяўляецца ў штоквартальным выдзяленні чарговых порцый крэдытаў для падтрымання ўстойлівасці нацыянальнай валюты. Рэальныя ж прагнозы наяўнага курсу вызначаюцца паказчыкамі інфляцыі, якую наўрад ці ўдасца ўтрымаць на прагназуемым узроўні 28%. Таму курс 2500 рублёў за долар ўяўляецца рэальным. Найбольшы скачок курсу чакаецца менавіта зімой – ужо да марта 2003 года курс можа дасягнуць 2300 рублёў за долар, а пасля традыцыйнага летняга зацішша курс набярэ ўзровень у 2500 рублёў ужо да наступнай зімы.

Прагназуемы ўзровень стаўкі рэфінансавання на наступны год чуць ніжэй сёлетняга паказчыка — каля 2% у месяц, што наўрад ці будзе садзейнічаць прытоку зберажэнняў патэнцыяльных інвестараў у нашыя банкі. Іх хутчэй за ўсе спалохае нізкая аддача на ўкладзены капітал – на кожны ўкладзены ў беларускую эканоміку долар і атрымаць удаецца ўсяго толькі долар, і то, у лепшым выпадку, бо даход па ўкладах на ўзроўні ў 1,5% у месяц пры ўзроўні дэвальвацыі ў 1,3% у месяц і нявызначанай рызыцы форсмажорных акалічнасцяў спужае не толькі буйнага інвестара, але настаў і простую вясковую ўкладчыцу. Гэта прывядзе да адцягнення ўкладаў насельніцтва з банкаў, і, як вынік, зніжэнне іх актываў.

Адаб'ецца ўсё гэта ўжо на валютным рынку, дзе праявіцца дысбаланс паміж попытам і прапановай, што толькі ўзмоцніць ціск на рост курсу долара.

У цэлым прагназуемыя паказчыкі на наступны год запланаваныя трохі лепш сёлетніх. Але дасягнуць іх будзе намнога складаней.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ ЭНЕРГАЗБЕРАЖЭННЕ

# Новыя тэхналогіі па эканоміі цяпла

**ВІЛЕЙКА. Ва ўмовах павышэння цэн на газ і нафту найменш пацерпяць тыя, хто навучыцца эфектыўна выкарыстоўваць энергетычныя рэсурсы.**

Гэта правіла тычыцца ўсіх. Беларуска-германскае сумеснае дабрачыннае прадпрыемства "Надзея – XXI стагоддзе" (БГСДП) ужо мае досвед эканоміі, які можна назваць перадавым у Беларусі.

Дзіцячы цэнтр "Надзея" з'яўляецца падраздзяленнем БГСДП па рэабілітацыі і аздараўленні дзяцей, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Тут адначасова адпачывае 200 дзяцей, для якіх працуе школа, медыцынскі корпус, водалячэбніца, сталовая, неўзабаве поўнасцю адчыніцца культурна-спартыўны комплекс.

За 10-гадовае існаванне ў развіццё цэнтра ўкладзена каля 18 мільёнаў долараў. Сумарнае спажыванне паліва-энергетычных рэсурсаў у "Надзеі" ў пераліку на тоны ўмоўнага паліва складае 382,5 тоны ў год. Гэта даволі значная доля ў структуры выдаткаў прадпрыемства. Таму адзін са шляхоў павышэння эканамічнай канкурэнтаздольнасці цэнтра пралягае ў эканоміі. З гэтай мэтай з 1999 па 2002 год уведзена сістэма асобнага ўліку электраэнергіі па спажыўцах, кацельня пераведзена на работу з эканамічнымі сеткавымі помпамі і ўцеплены катлы, лямпы напальвання заменены люмінісцэнтнымі свяцільнікамі, будынкі абсталяваны сістэмамі індывідуальнага цеплавога рэгулявання.

У межах праграмы падтрымкі Беларусі ад урада ФРГ арганізацыі-партнёры фонд "Жыццё пасля Чарнобыля" (Франкфурт-на-Майне) і дзіцячы цэнтр "Надзея", якія супрацоўнічаюць з 1992 года, атрымалі 55 тысяч еўра на правядзенне мерапрыемстваў па эканоміі энергарэсурсаў і распрацоўку плана эканоміі энергарэсурсаў для цэнтра "Надзея".

У верасні-кастрычніку ўцепленыя фасады двух спальных карпусоў. Гэтае мерапрыемства, якое дасць 30 %-ы эканамічны эфект, абышлося ў 62,5 тысячы еўра.

Набліжаецца да завяршэння распрацоўка праграмы рацыянальнага выкарыстання энергетычных рэсурсаў у цэнтры "Надзея" на перыяд да 2005 года. Па разліках спецыялістаў, яе ўкараненне дазволіць эканоміць да 14 % фінансавых сродкаў.

У далейшым асноўная ўвага ў накірунку павышэння эканоміі будзе надавацца паэтапнай мадэрнізацыі кацельні да ўстаноўкі блочнай ЦЭЦ – тэхналогіі, якая яшчэ не выкарыстоўваецца ў Беларусі.

Варта чакаць, што праз супрацоўніцтва цэнтра "Надзея" з іншымі прадпрыемствамі і арганізацыямі, якія працуюць у сферы эканоміі энергіі, падобныя мерапрыемствы будуць больш шырока выкарыстоўвацца ў Беларусі.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 5.12 руб. | 12.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1908,00 | 1911,00 |
| Еўра | 1910,77 | 1927,24 |
| Злоты | 479,52 | 484,87 |
| Літ | 553,41 | 558,29 |
| Расійскі рубель | 59,89 | 59,98 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1900/1925 | 1925/1950 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 4.12 | 11.12 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10990 | 10990 |
| Сасіскі, 1 кг | 4900 | 4900 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 700 | 700 |
| Грэчка, 1 кг | 1100 | 1000 |
| Цукар, 1 кг | 865 | 865 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1150 | 1150 |
| Алей, 1 л | 1550 | 1950 |
| Маянэз, 200 г | 400 | 400 |
| Кава «Пеле, 100 г | 1900 | 1900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | 600 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 700 | 700 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 550 | 700 |
| Капуста, 1 кг | 450 | 510 |
| Морква, 1 кг | 550 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | [illegible] | [illegible] |
| Апельсіны, 1 кг | [illegible] | [illegible] |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1 л | 700 | 650 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1800 | 2000 |
| Бульба, 1 вядро | 3200 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 750 | 800 |

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Угналі «Фольксваген-Пасат»

**МЯДЗЕЛ. У мінулую суботу ад рынку ў райцэнтры ўгналі аўтамабіль "Фольксваген-Пасат".**

Гаспадар пакінуў машыну непадалёку і пайшоў за пакупкамі, тым часам машыны не стала. Гэта не адзінкавая падобнае здарэнне ля рынку за апошні час. Нядаўна ў аднаго з гандляроў укралі прычэп.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Пракуратура шукае сведкаў

Маладзечанская міжрайпракуратура 16 лістапада ўзбудзіла крымінальную справу па ч.1 арт.139 КК Рэспублікі Беларусь па факту знаходжання ў в. М.Асанава Маладзечанскага раёна трупа састарэлага Міхаіла Сядзенкі з яўнымі прыкметамі гвалтоўнай смерці.

Просьба да ўладальнікаў і пасажыраў аўтамабіляў, якія 15 лістапада 2002 года каля 15-17 гадзін ад завода "Спадарожнік" у Маладзечне да Лебедзева, а таксама ад Лебедзева да магазіна "Елгава" ў Маладзечне падвозілі спадарожніка па імені Віктар. Прыкметы: на выгляд 40 гадоў, рост каля 175 см, хударлявага целаскладу. Быў апрануты ў куртку скуранную чорнага колеру, штаны спартыўныя, чорную вязаную шапку. Тых, хто штонебудзь ведае аб гэтым чалавеку, просім паведаміць у Маладзечанскую пракуратуру па тэл. 6-87-22 ці ў міліцыю па тэл. 7-38-23, 02.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПАРТРЭТ

# Доктар, які не можа жыць без сваёй работы

**МАЛАДЗЕЧНА. У гарадской паліклініцы працуе 84 доктары. Толькі два закончылі ардынатуру. Адна з іх – загадчыца 3-га тэрапеўтычнага аддзялення Галіна Малышка.**



**Загадчыца 3-га тэрапеўтычнага аддзялення Маладзечанскай гарадской паліклінікі Галіна Малышка.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

### «Буду доктарам!»

Так Галя казала ў дзяцінстве. Крок за крокам яна ішла да сваёй мэты. Вучылася ў СШ №9. Была пераможцай рэспубліканскіх і абласных алімпіяд па хіміі. Гэта дало магчымасць без экзаменаў паступаць на хімічны факультэт у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Але спынілася на Мінскім медыцынскім інстытуце. За выдатныя поспехі па хіміі прыбавілі 1 бал. Але паступіць усё роўна не атрымалася. Пайшла працаваць санітаркай на станцыю пераліванія крыві.

Праз год паступіла ў Гродзенскі медыцынскі інстытут. Гавораць, вучыцца было не складана. Падпрацоўвала медсястрой хірургічнага аддзялення ў Шчучынскай бальніцы. У перапынках паміж справамі хадзіла на спатканні з аднакурснікам. На 4-м курсе пажаніліся. На 5-м нарадзіла сына Сяргея. І ў маленькі пакой інтэрната да маладых бацькоў перасялілася Галіна бабуля. Дапамагала гадаваць дзіця. Потым Сяргея, які яшчэ і хадзіць не навучыўся, аддалі ў яслі. Так і прасядзеў паўтара месяца ў манежы, пакуль пайшоў хадзіць.

### ...І стала тэрапеўтам

Пасля заканчэння інстытута сям'я Малышкаў пераехала ў Маладзечна. Галіна стала працаваць тэрапеўтам у гарадской паліклініцы. Калі дазваляў час, ездзілі ўсёй сям'ёй на дачу. Галіна – вялікая аматарка кветак. Хоча ўсю дачу імі засадзіць. Са смехам успамінае, як аднойчы яны паехалі туды. Сын Сярожа заўважыў у небе птушку і кажа:

— Тата. Бусел ляціць!

Бацька тут жа спахапіўся: "Дайце ружжо!", — крычыць.

Пасля гэтага ў іх нарадзіліся яшчэ 2 сыны. Але больш за 6 месяцаў у дэкрэце ні з адным не сядзела. "Ну, не магу я дома. На работу хачу", — гаворыць Галіна.

Яна часта затрымліваецца ў паліклініцы, каб прыняць усіх хворых. Талоны з нумарамі даюць толькі 8-і хворым, астатнія так... Нікога крыўдзіць не хочацца. Шкада, што адымаюць час сімулянты, якія выклікаюць доктара дадому. У асноўным гэта моладзь, навучэнцы ПТВ. Часцей жа выклікаюць доктара пажылыя людзі.

"Пайшла я аднойчы на чарговы выклік, — успамінае Галіна, — а там барак, а ў ім цыганоў 10 жыве. Брудна, смурод". Галіна прыйшла ў каракулевым футры. Цыганы абступілі. Прапануюць футра на іхняе паліто памяняць. Ледзь-ледзь ад іх уцякла. На наступны дзень зноў на гэты адрас выклікаюць. Прыйшлося з участковым міліцыянерам ісці. Так доктар і працуе.

Але галоўнае для Галіны, канешне, — сям'я. "Ведаеце, — кажа, — як класна я пяку пірагі ў печы. Кожны дзень суп вару. Борш усе любяць. Гатую толькі на адзін дзень. Кожны дзень усё свежае". Муж раіць купіць вялікую каструлю, каб хоць на 2 дні хапіла. Сама Галіна харчуецца, як прыйдзецца. На снядананак толькі каву без цукру п'е.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЗАКАНАДАЎСТВА

# Новы закон уступае ў сілу

**З 1 студзеня на тэрыторыі ўсёй краіны ўступае ў сілу Закон "Аб індывідуальным (персаніфікаваным) уліку ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання".**

Гэта значыць, што зменіцца прынцып налічэння пенсій. Персаніфікаваны ўлік – гэта збор, накапленне на працягу ўсёй працоўнай дзейнасці і захоўванне звестак аб кожнай застрахаванай асобе (грамадзяніне, які працуе), што выкарыстоўваюцца пры назначэнні выплат па дзяржаўным сацыяльным страхаванні.

6 студзеня 1999 года быў прыняты гэты закон. У сувязі з гэтым было распрацавана "Палажэнне аб парадку першапачатковай рэгістрацыі застрахаваных асоб пры ўвядзенні індывідуальнага (персаніфікаванага) уліку ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання", зацверджанае пастановай №79 Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь ад 23 мая 2002 года.



**З новага года зменіцца прынцып налічэння пенсій. Але сучасных пенсіянераў гэта ўжо не турбуе, яны сваю пенсію зарабілі.** Фота IREX/ProMedia.

Палажэннем аб парадку першапачатковай рэгістрацыі вызначаны асаблівасці запаўнення формаў дакументаў персаніфікаванага ўліку (далей – ДПУ) і асаблівасці падачы іх у орган фонду.

Першапачатковая рэгістрацыя ўяўляе сабой рэгістрацыю тых, хто працуе на прадпрыемстве, па стану на 1 студзеня 2003 года па працоўным дагаворы, грамадзянска-прававым дагаворы ў юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, а таксама на аснове членства (удзелу) юрыдычных асоб любых арганізацыйна-прававых формаў; прынятых на работу ў перыяд пасля 1 студзеня 2003 года па даце завяршэння першапачатковай рэгістрацыі па працоўным дагаворы, грамадзянска-прававым дагаворы і на аснове членства (удзелу); а таксама фізічных асоб, якія самастойна ўплачваюць страхавыя ўзносы ў фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

Тэрмін для правядзення першапачатковай рэгістрацыі будзе вызначаны органамі фонду. Дата падачы работадаўцам і фізічнай асобай, якая самастойна ўплачвае страхавыя ўзносы ў фонд, ДПУ для першапачатковай рэгістрацыі ўстанаўліваецца графікам, зацверджаным гарадскім (раёнаным) аддзеламі фонду. Таму нейкая частка работадаўцаў абавязана будзе здаць ДПУ ў пачатку студзеня, а іншыя работадаўцы – у лютым, сакавіку, а, магчыма, і пазней.

Для падрыхтоўкі работадаўцам інфармацыі для персаніфікаванага ўліку выкарыстоўваюцца наступныя формы: ПУ-1 "Анкета застрахаванай асобы", ПУ-2 "Звесткі аб прыёме і звальненні", ПУ-3 "Індывідуальныя звесткі".

**Таццяна КРЫШТАПЯН.**

# Вільня – старажытная сталіца

**Вільня – старажытная сталіца Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. З 1940 года – сталіца Літвы. Пражывае ў Вільні каля 600 тысяч жыхароў.**

У "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" сказана, што сваю назву горад атрымаў ад ракі Вільня, славянскае паходжанне якой бясспрэчнае. Прапануем нататкі нашага карэспандэнта **Алеся Высоцкага**, які пабываў у Вільні.

## Стары горад

Гэта вам не Траецкае прадмесце: па звілістых вулачках Старой Вільні можна шпацыраваць дзень, другі, трэці і ўсё роўна адкрываць для сябе новыя куточкі.

Храмы змяняюць антыкварныя крамы, старадаўнія (ці адрэстаўраваныя пад старадаўнія) дамы з іх утульнымі дворыкамі чаргуюцца з незлічонымі кавярнямі і рэстаранамі, буцікамі. І паўсюль раскіданы невялічкія стыльныя гатэлі. А з надыходам цемры ўся гэта прыгажосць набывае новыя адценні: будынкі падсвечваюцца, крамкі яшчэ і ўсярэдзіне асвятляюцца, быццам запрашаючы: "Ну прыйдзі заўтра, купі штосьці".

Хаця шмат яшчэ дамоў стаіць неадрэстаўраваных. Але, здаецца, да іх усё роўна дабяруцца, бо ідзеш ранкам а сёмай гадзіне – работы ўжо вядуцца. А ў Вільні цікава сродкі на рэстаўрацыю збіраюць: так, унёсак на аднаўленне замка можна зрабіць, набыўшы каробку цукерак.

У горадзе заўважана шмат графіці. Але, да гонару ўладальнікаў балончыкаў, зборльшага самавыяўляюцца яны на сценах дамоў, якія яшчэ не прыведзены ў парадак.

## Вільня турыстычная

Паглядзець на славутасці Вільні прыязджае шмат турыстаў, на вулачках можна ўбачыць нават і японцаў. У абавязковай праграме — узыходжанне на вежу Гедыміна, каб палюбавацца чырвона-чарапічнай панарамай горада, прагулкі па Старой Вільні і наведванне касцёлаў. А ёсць і маршруты, скажам так, нацыянальныя. Кожны паважаючы сябе паляк не абміне музея Адама Міцкевіча ды магілкі Роса, дзе пахавана маці Пілсудскага і яго сэрца. І для беларуса ў Вільні шмат цікаўнага: месцы, дзе друкаваў кнігі Францыск Скарына, выдавалася першая газета "Наша Ніва", прыняў смерць Кастусь Каліноўскі...


Беларускі касцёл святога Барталамея ў Вільні. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Але сыходзяцца турысты ў адным месцы: на кірмашы на вуліцы Пілес. У адным куточку размясціліся мастакі з іх пераважна віленскімі краявідамі, насупраць прадаюць сувеніры — у асноўным кераміку, вырабы з дрэва, срэбра і, вядома, з бурштыну.

## Кавярні

Прыемнае ўражанне пакідаюць віленскія кавярні-бары. Кожная мае арыгінальны дызайн: зайшоўшы ў адну, бы трапляеш у сярэднявечча (дзяўчаты ў народных строях сустракаюць пры ўваходзе), іншая аформлена ў народным стылі, трэцяя – у экзатычным і гэтак далей. Цэны, улічваючы стыльнасць абстаноўкі і добры сервіс, не дужа высокія. Кубачак кавы – нешта з паўдолара, куфаль піва – ля долара.

У цэнтры Старой Вільні заўважаеш нешта роднае: гатэль і рэстаран «Narytis» («Нарач» па-нашаму). Праўда, што ж там усярэдзіне, ацаніць не ўдалося: дарагое месца. Прыкладам, нумары ў гэтым 4–зоркавым гатэлі з даўняй гісторыяй каштуюць ад 90 долараў ЗША ў суткі. Цэніцца Нарач у Вільні!

## Храмы

Іх у Вільні на кожным кроку. Герой рамана Максіма Гарэцкага "Віленскія камунары" гаварыў: «Вільня, як вядома, – самы прыгожы горад у свеце. Кожны князь ці княгіня, ці хоць гетман, каб праславіцца, абавязкова будавалі ў Вільні прыгожую царкву альбо касцёл, пра што цяпер пішуць усе энцыклапедыі ва ўсім свеце".

Каб не зблудзіць у Старым горадзе, па храмах можна і арыентавацца: здалёк бачны, ды і кожны вельмі асаблівы. Каб не крыж уверсе, Кафедральны касцёл лёгка было б прыняць за які тэатр з яго калонамі. Вось пекны і быццам нейкі лёгкі гатычны касцёл святой Ганны. Невялікая Пятніцкая царква – самая старажытная хрысціянская святыня ў Вільні, яе гісторыя пачынаецца з XIV стагоддзя. Сцвярджаецца, што тут Пётр І хрысціў Абрама Ганібала, прадзеда Аляксандра Пушкіна. Дарэчы, у гэтай царкве бываюць службы і на нашай мове. А для каталікоў-беларусаў ёсць касцёл святога Барталамея. З дапамогай мясцовых людзей, беларусаў з замежжа яго адрэстаўравалі. Праўда, вернікаў няшмат сюды заходзіць.

## Беларускі музей

А да беларускага касцёла мараць нашы суайчыннікі адрадзіць і Беларускі музей імя Івана Луцкевіча. Заснаваны той быў у 1921 годзе. Калекцыю складалі каштоўныя стадрукі, дакументы, этнаграфічныя і археалагічныя экспанаты. Аснову музея склала прыватная калекцыя, сабраная археолагам і беларускім грамадскім дзеячам Іванам Луцкевічам, якую ён ахвяраваў за год да смерці Беларускаму навуковаму таварыству. Зліквідавалі музей у 1945 годзе, а яго фонды перадаваліся ў літоўскія музеі і бібліятэкі, пазней частка экспанатаў трапіла і ў Беларусь. Летась прадстаўнікі беларускай дыяспары зарэгістравалі грамадскую ўстанову "Беларускі музей імя Івана Луцкевіча". Мяркуць ладзіць сумесныя выставы з літоўскімі і беларускімі музеямі, дзе знаходзяцца экспанаты з калекцыі Луцкевіча, збіраюць новую экспазіцыю. А зусім нядаўна сейм Літвы падтрымаў намаганні беларусаў і прыняў пастанову аб аднаўленні дзейнасці музея імя Івана Луцкевіча.

## Супермаркеты

Памятаеце яшчэ савецкія часы, калі экскурсіі ў Вільню праходзілі прыблізна так: хуценькае знаёмства са славутасцямі горада (калі да яго наогул даходзіла) і – па магазінах. Са з'яўленнем мяжы ў такіх вая-



Уваход у Віленскі супермаркет. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

жах сэнсу ўжо не стала. У Вільню пачалі ездзіць меней, але па-сапраўдным: каб паблукаць па старых вулачках ці правесці рамантычны уік-энд. Хаця ў апошні час ці не кожная турфірма прапануе да гэтай праграмы і наведванне супермаркета. Што ж, зойдзем у гэты цуд капіталізму.

Што сказаць, памеры супермаркета і выбар тавараў уражваюць. Ды і цэны на шмат што ніжэйшыя, чым нават у Ждановічах. А купляць прыемней: светла, прасторна, гучыць музыка, пастаянна ў мэтах рэкламы табе прапануюць штосьці паспрабаваць. А каб дзецям было не сумна, пакуль бацькі нагружаюць цялежкі таварамі, да цялежак гэтых прымацаваныя яркія кабіны аўтамабільчыкаў. Так што для малых працэс пакупкі ператвараецца ў вясёлае ралі.

Харчовыя тавары на паліцах – спрэс літоўскія (прытым што па дарозе на Вільню заўважаеш: беларускія палі то ўсе ўзараныя, дзе мо' і непатрэбна, а ў Літве – выбарачна). Дык вось, прысутнасці замежных тавараў практычна няма, а тым больш расійскіх. На вочы можа трапіцца хіба што неўміручы "Ралтон", а з нашых – перахрышчаная мінералка "Daridas" і лідскае піва (дзеля экзотыкі яно тут ці што?).

Тут і распрадажы пастаянна ўстройваюць. Гавораць, што віленчукі не з багатых нават зайздросцяць тым, хто жыве паблізу супермаркетаў: калі сюды пастаянна заходзіць, то на такую халяву можна натрапіць!

Да таго ж тут вельмі ветлівыя касіркі: перш чым узяць з цябе літы ды цэнты, яны абавязкова павітаюцца.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Ну чым не кавалачак Еўропы! Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.


Гэтай дзяўчынцы на кірмашы спадабаліся вядзьмаркі. Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

# Захад-Усход: хто мацнейшы?

## Амерыканец Барыс Кіт успамінае часы «халоднай вайны»

**Часы "халоднай вайны" паміж ЗША і СССР адышлі ў мінулае. Але, калі згадваеш іх, задаешся пытаннем: а як было на самой справе?**

Пра пункт гледжання савецкай прапаганды мы ўсе ведаем, бо жылі ў часы гэтага рэжыму. А як ставіліся да пагрозы амерыканцы? На нашыя пытанні адказаў стваральнік паліва для міжкантынентальных ракет, наш зямляк Барыс Уладзіміравіч Кіт, грамадзянін ЗША.

**— Вы мелі дачыненне да стварэння міжкантынентальных ракетных сістэм. Ці асэнсоўвалі Вы небяспечнасць Вашых распрацовак?**

— Безумоўна, але ўсе гэтыя распрацоўкі служылі мэце абароны сваёй краіны ў той час, калі гэткія самыя распрацоўкі ішлі і ў СССР, якая варожа адносілася да ЗША і ўсяго заходняга свету. Гэта значыць, трэба было нешта рабіць у абарону. Нашыя распрацоўкі былі працягам гэткай самай дзейнасці ў Нямеччыне падчас другой сусветнай вайны і яшчэ раней. Добры бок гэткіх распрацовак быў той, што адначасова распрацоўваліся новыя тэхналогіі, якія пазней выкарыстоўваліся ў грамадскім жыцці (як камп'ютэры, медычнае абсталяванне і г.д.). Ракетныя распрацоўкі напачатку мелі вайсковы характар, але з цягам часу, калі гэтая галіна буйна ўзрасла, дык дзейнасць падзялілася на дзве часткі: вайсковую і грамадзянскую. У гэты час было створана Міністэрства астранаўтыкі (НАСА), што рэалізоўвала такія праекты, як Апалон – падарожжа на Месяц ці Шатл – чаўночны касмічны карабель і г.д. У СССР гэтага не было. Усё было пад кантролем вайсковых улад, усё працавала на вайну. Праекты НАСА бязмежна ўзбагацілі агульную навуку і тэхналогію, мы іх выкарыстоўваем і сёння. Найлепшыя камп'ютэры, лазеры. І ўсё гэта пачыналася ў мае гады, 50-я, і ў гэтай рабоце я таксама ўдзельнічаў. Не шкадую аб гэтым, а наадварот – вельмі ганаруся!

**— Што за нагода была для склікання Першага астранаўтычнага кангрэса ў Амстэрдаме? Гэта быў час запуску першага штучнага спадарожніка?**

— Кангрэс астранаўтыкі ў Амстэрдаме ў 1958 годзе не быў першы. Гэтыя кангрэсы ўжо пачаліся ў 1950 годзе. Прычынай іх склікання быў выбух астранаўтычнай дзейнасці і ў ЗША, і ў СССР, ад чаго з'явілася патрэба міжнароднага супрацоўніцтва, абмен навуковымі і тэхнічнымі дасягненнямі, што заўсёды служыць далейшым поспехам у гэтай галіне. Вучоныя прыязджалі з усяго свету і рабілі даклады аб сваіх дасягненнях (не сакрэтных).

Галоўнай жа маёй мэтай паездкі ў Амстэрдам было спаткаць фон Кармана, Отта фон Брауна – славутасцей, каб нехта з іх напісаў прадмову да майго падручніка (першага па гісторыі!) па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве. Гэтага хацела мая выдавецкая фірма. Гэтую прадмову я атрымаў ад фон Кармана, што дапамагло распаўсюджванню майго падручніка па ўсім свеце. Адначасова я пазнаёміўся і з многімі славутасцямі — як амерыканскімі (фон Брауны), так і з савецкімі (Сядоў, Благанраваў, Агароднікаў).



**1983 год. Барыс Кіт – прафесар Вашынгтонскага Мерылендскага універсітэта.**

Фота з "Юбілейнага альбома да 90 годдзя Барыса Кіта".

### Успаміны аб сябрах і калегах

**— Цікава было б пачытаць Вашыя ўспаміны аб Тэадору фон Кармане. Ці размаўлялі Вы з ім аб праблемах небяспечнасці Вашых даследаванняў? Уплыве іх на лёс цывілізацыі?**

— Мае ўспаміны аб Тэадору фон Кармане – гэта вялікая праца, нават цэлая кніга. Цяжка тут усё распавесці. Успаміны аб ім я пераказаў у сваім рэфераце на міжнародным кангрэсе астранаўтыкі ў Брайтан, Англіі, 1987 г. А таксама апублікаваў у нямецкім астранаўтычным часопісе "Astronawtik" у 1988 годзе. Коратка скажу, што я шмат супрацоўнічаў з ім і мы былі вельмі добрымі прыяцелямі. Нашыя ж даследаванні, можна лічыць, уваходзілі ў натуральны працэс чалавечага развіцця.

**— Што ўяўлялі сабой Герман Оберт? Вернер фон Браун?**

— Герман Оберт належыць гістарычна да трох вялікіх першапраходцаў астранаўтыкі: Целякоўскі (рускі), Оберт (немец) і Годдард (амерыканец). Усе яны дзейнічалі з самага пачатку XX стагоддзя. Целякоўскі і Оберт праявілі сябе ў першых тэарэтычных працах па астранаўтыцы, а Годдард стварыў першую маленькую ракету на плыўкім паліве, якую пазней перахапілі немцы падчас другой сусветнай вайны і стварылі першую ў гісторыі вялікую ракету (фон Браун) А-4, або ФАУ-2 (V-2). Пасля вайны фон Браун пераехаў у ЗША і браў удзел у пабудове ўсіх амерыканскіх ракет уключна з Сатурнам-5, што панёс амерыканскі касмічны карабель на Месяц, а таксама Апалонаў 11-17.

### Амерыканцы ўсё роўна б прыляцелі на Месяц

**— Як Вы думаеце: ці ў стане былі б амерыканцы высадзіцца на Месяц, калі б не нямецкія распрацоўкі часоў другой сусветнай вайны? Ці гэтая байка была прыдумана бальшавікамі?**

— Напэўна, амерыканцы змаглі б і самі, але нямецкія распрацоўкі дапамаглі ім і Саветам, якія таксама захапілі шмат нямецкіх вучоных і дакументаў. Праект жа Апалон галоўным чынам рабіўся ў Каліфорніі ў маёй фірме North American Ariatim, Inc. (сёння Parnell Internatonal Corp.). Мы атрымалі шмат грошай і нанялі яшчэ шматлікія фірмы, дзе працавалі толькі амерыканцы. Фон Браун будаваў у Hansville, Alabama разам са сваімі нямецкімі памочнікамі Сатурн-5 – ракету для Апалона. Разам працавалі на гэты праект каля мільёна вучоных і інжынераў. Гэта высілкі ўсяго амерыканскага народа.

**— Што ўяўляе сабой Міжнародная федэрацыя астранаўтыкі?**

— Міжнародная федэрацыя астранаўтыкі (IAF) – гэта таварыская недзяржаўная арганізацыя выдатных астранаўтычных спецыялістаў і дзеячаў (сёння – некалькі тысяч членаў) і суполак усяго свету. Над ёй стаіць сёння IAA – Міжнародная акадэмія астранаўтыкі. З беларусаў удзельнічаюць і належаць ёй толькі дзве асобы: я (паўнапраўны член) і Клімук (член-карэспандэнт).

**— Вы добры знаёмец Фрэдэрыка Ордвея. Раскажыце пра яго погляды на касмічныя праекты і лёс чалавецтва.**

— Фрэдэрык Ордвей – мой найбліжэйшы сябар – выдатны ў ЗША пісьменнік, аўтар шматлікіх твораў у галіне астранаўтыкі. Яго погляд на касмічныя праекты адлюстроўвае гэтыя найвялікшыя дасягненні чалавецтва, як найбольш навуковы і тэхнічны ўздым у гісторыі і прысвечаны пачатку засвойвання планетарнай прасторы.

Фрэдэрык Ордвей дапамог мне у маёй вялікай, на 600 старонак, кнізе па гісторыі савецкай астранаўтыкі. Дарэчы, Ордвей напісаў каля 10 кніг для фон Брауна, які сам пісаў няшмат.

### Перамовы паміж ЗША і СССР

**— Як праходзілі першыя перамовы паміж ЗША і СССР па супрацоўніцтве ў галіне космасу?**

— У 1960 годзе адбыліся першыя спатканні паміж амерыканскімі і савецкімі ўладамі на вышэйшым узроўні з мэтай наладжвання супрацоўніцтва ў галіне астранаўтычных даследаванняў. Згодна з жаданнем першага прэзідэнта НАСА ў Шэратон-Гатэлі ў Вашынгтоне пад маім кіраўніцтвам адбыўся першы гістарычны сход высокіх прадстаўнікоў ЗША і СССР.

Сход даў першыя карысныя вынікі – згоду на супрацоўніцтва ў галіне даследавання і пабудовы метэаралагічных сатэлітаў, як "Рэха" і інш.

Я лічу, што гэты сход быў пачаткам такіх праектаў, як "Апалон-Саюз", праект сённяшняга – міжнароднай касмічнай арбітальнай станцыі "Альфа".

**— Працуючы над выкарыстаннем матэматычных метадаў у вайсковых аперацыях, згадваюць тую, што была праведзена Англіяй супраць нямецкіх падводных лодак у Атлантыцы. Што гэта была за аперацыя?**

— Ад пачатку вайны і прыблізна да 1943 года нямецкі падводны флот паспяхова знішчаў вялікую частку перавозак у Атлантыцы вайсковага і грамадзянскага матэрыялу з ЗША у СССР і Англію.

### Матэматыкі на службе ў ваенных

Змагаліся з падлодкамі толькі вайсковыя караблі-знішчальнікі, якія суправаджалі фрахтавыя адзінкі праз кіданне глыбінных бомбаў на заўважаныя месцы знаходжання лодак. Але гэта не давала вялікіх вынікаў.

Пасля таго, як у Англіі быў вынайдзены новы электрычны інструмент – радар, — эфектыўнасць супрацьлодачных дзеянняў узрасла. Трэба было пабудаваць у акіяне радарныя станцыі, якія б адсочвалі рух лодак, месцы іх знаходжання. А пасля па гэтых каардынатах працавалі б самалёты-знішчальнікі са спецыяльнымі тарпедамі.

Было важнае пытанне: у якіх пунктах Атлантыкі трэба паставіць радарныя станцыі для найлепшага поспеху аперацыі? Гэтае заданне было дадзена англійскім матэматыкам, якія вырашылі яго з дапамогай прыкладной матэматыкі і статыстыкі.

Вынік быў ашаламляльны! У кароткі час падводны флот Германіі быў амаль што ўвесь знішчаны.

Поспех гэты нарадзіў новую навуку – сістэмны аналіз, якая хутка вырасла ў Амерыцы да карыстання не толькі ў вайсковых справах, але і ў грамадскім жыцці. У ЗША я быў членам навуковага таварыства, якое вывучала гэтую навуку. Складалася ж яно амаль з 30000 членаў-матэматыкаў.

### Барыс Кіт – глабаліст

**— Працуючы ў галіне стандартызацыі, вы спрыялі глабалізацыі?**

— У 1964-1968 гадах я працаваў у якасці старэйшага навуковага супрацоўніка ў Міністэрстве камерцыі ЗША. Аддзел наш называўся нацыянальным бюро стандартаў. Матэматыкі займаліся павышэннем эфектыўнасці дзейнасці не толькі нашага міністэрства, але і іншых.

Адначасова мне прыйшлося выконваць функцыю дзяржаўнага прадстаўніка на кангрэсах па сусветнай стандартызацыі, якая, напэўна, дапамагла глабалізацыі ўсяго свету. Я падрыхтаваў два сусветных кангрэсы па гэтых пытаннях у Празе (1967) і ў Горген, Швейцарыі (1968).

Сусветная стандартызацыя заўсёды спрыяла сусветнай камерцыі і глабалізацыі. Глабалізацыя ж – гэта натуральны працэс развіцця чалавецтва, які ніякія дэманстрацыі антыглабалістаў не спыняць.

Падрыхтаваў
Алесь РАЛАВЕЦ.

■ РЭЙДЫ

# Як жывеш, Уша?

**1 снежня група маладзечанскіх эколагаў правяла даследаванне стану вадасцёку, прытоку Ушы, які пачынаецца ля вуліцы Бухаўшчына.**

Па экалагічным стане гэтая рэчка дзеліцца на некалькі няроўных адрэзкаў. Першы адрэзак – ад вуліцы Льва Талстога да аўтавакзала. Тут русла парасло кустамі, вельмі засмечанае. Людзі парабілі самаробныя запруды, ямы і выкарыстоўваюць ваду для паліву. Прыбіральні часта размешчаныя ля вады. Сюды ж зліваюцца і бытавыя адходы. Забруджванне ў асноўным арганічнае.

Другі ўчастак – ад каналізацыйна-помпавай станцыі (КПС), што знаходзіцца ля аўтавакзала, да выхаду з горада. Даследаванне праводзілася ў той час, калі некалькі дзён запар стаялі маразы і першы ўчастак прамёрз ушчэнт. Але ўжо ў некалькіх метрах ад КПС прасочваліся каналізацыйныя неачышчаныя воды. У раёне чыгуначнага вакзала рэчка зноў на сотню метраў цячэ па зямной паверхні. Вада яўна забруджаная: непразрыстая, ад высокай тэмпературы ў марознае паветра ішла пара. На другім участку, у адрозненне ад першага, вышэйшай воднай расліннасці няма. Да арганічнага забруджвання ніжэй КПС дабаўляецца хімічнае. Вада цёплая і трапляе ва Ушу па гэтаму вадасцёку без ачысткі.



Алег Бяганскі бярэ пробу вады ў гарадскіх вадасцёках падчас рэйду 1 снежня. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

У раёне вуліцы Лясной на каменнях ў 10-градусны мароз буяюць прымітыўныя накіпныя водарасці. Іншыя арганізмы тут не выжываюць. Непрыемны пах адчуваецца на ўсім маладзечанскім участку рэчкі. Крыху ніжэй стромкае цячэнне вадасцёку змяняецца больш павольным, і на дне пачынае адкладвацца асадак у выглядзе слізкай нафтападобнай чорнай масы. Вада ад КПС да выхаду з горада не замярзае, таму зімой пры нізкай тэмпературы надвор'я ідзе пара, што можа прывесці да лёгачных захворванняў жыхароў бліжэйшых дамоў.

Трэці ўчастак, які вызначылі эколагі, — ад выхаду за межы Маладзечна да ўпадзення вадасцёку ва Ушу. Тут тэмпература вады зніжаецца настолькі, што з'яўляецца лёд. Прычым лёд гэты зеленаватага колеру. На гэтым участку злучаецца некалькі меліярацыйных каналаў з палёў. Так што ў ваду трапляюць і ўгнаенні, змытыя дажджамі або талым снегам. Такім чынам усе забруджвальнікі і трапляюць ва Ушу.

**Аляг БЯГАНСКІ.**

■ МІНУЛАЕ

## Незвычайныя моры

**Ці ведаеце вы, што наш рэгіён знаходзіцца над двума найвялікшымі ў Беларусі морамі. Так-так, менавіта "над", бо гэтыя моры – падземныя. Па-навуковаму яны завуцца ваданоснымі гарызонтамі.**

Утвараліся ваданосныя гарызонты ў розныя геалагічныя эпохі сотні тысяч і мільёны год таму. Тады наша зямля то была морам, то зноў рабілася сушай. У гэтых умовах утвараліся то гліністыя (водатрывалыя) пароды, то пароды, праз якія вада лёгка прасочваецца. Увогуле, у Беларусі налічваюць 13 такіх гарызонтаў. А самы магутны па колькасці вады называецца Маскоўска-Валдайскім і займае паўднёвую частку нашага рэгіёну. Мяжа гэтага падземнага мора праходзіць прыкладна па лініі Свір-Вілейка-Докшыцы-Лепель-Крупкі-Сянно і далей у Расію.

Другі па магутнасці — Дняпроўска-Маскоўскі гарызонт. Ён перакрывае ўвесь наш рэгіён, а таксама цэнтральную і паўночную Беларусь. Ён ідзе праз Брэст-Пружаны-Івацэвічы-Ганцавічы-Старобін-Бабруйск-Слаўгарад-Крычаў...

Знаходзяцца падземныя моры на глыбіні ад 60 метраў да 2 кіламетраў. Водаабмен у іх вельмі запаволены, таму і моцна берагчы трэба гэтыя рэсурсы.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ГРАМАДСТВА

# Ахова прыроды і сацыяльная абарона

**Экалогію шмат хто з людзей успрымае як нешта другаснае, незразумелае. Між тым падтрыманне ў добрым стане навакольнага асяроддзя можа вырашыць эканамічныя праблемы канкрэтнай сям'і. Галоўнае, каб побач з месцам яе жыхарства быў маляўнічы і як мага менш кранутый ўмяшаннем чалавека прыродны аб'ект. Возьмем, напрыклад, возера Нарач.**

У Нарачанскім нацыянальным парку амаль палова насельніцтва, якое жыве на ўзбярэжжы возера, атрымлівае даход ад турызму, які ў летні перыяд нават роўны афіцыйнаму даходу ад асноўнай дзейнасці. Гэтыя дадатковыя заробкі дазваляюць трымаць сямейны бюджэт не ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэту. Мясцовыя жыхары здаюць турыстам жылыя памяшканні, збываюць ім прадукты вытворчасці свайго домаўладання, здаюць у арэнду лодкі і г.д. Усё гэта становіцца магчымым толькі таму, што тут захаваліся унікальныя прыродныя комплексы. І чым далей яны будуць захаваны ў добрым экалагічным стане, тым даўжэй мясцовае насельніцтва будзе мець магчымасць атрымліваць дадатковы даход. Людзі самі становяцца зацікаўленымі ў захаванні прыроды. Прытым – матэрыяльна!

Летам у нацыянальным парку "Нарачанскі" на 100 мясцовых жыхароў прыходзіцца 77 турыстаў. Гэта самая вялікая рэкрыяцыйная нагрузка, калі параўноўваць з іншымі нацыянальнымі паркамі Беларусі. Доля хатніх гаспадарак, якія атрымліваюць даходы ад турыстаў, складае 50,9% — таксама найбольшы паказчык. Але з усіх турыстаў толькі 7,4% размяркоўваюцца па прыватным сектары. Гэта значыць, што асноўны даход ад турыстычнага бізнесу на Нарачы перахоплівае або дзяржава, або адмысловыя фірмы.



Сфера забаў развіваецца толькі на добраўпарадкаваных тэрыторыях. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Між тым з 6500 хатніх гаспадарак, што размешчаныя ў нацыянальным парку "Нарачанскі", 5400 жадаюць прымаць удзел у абслугоўванні турыстаў. На 6% загружаны адпачываючымі прыватны жыллёвы фонд. Ліквідацыя такой дыспрапорцыі дала б магчымасць мясцовым жыхарам мець яшчэ большы прыбытак ад свайго экалагічнага становішча, а мясцовым уладам – вырашыць сацыяльныя праблемы: беспрацоўе, нізкія даходы людзей. Але галоўнае, што для гэтага патрэбна, — захаваць у чысціні тую зямлю, на якой мы жывём. Бо які турыст паедзе глядзець на жывёлагадоўчую ферму сярод асушанага тарфяніку?

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ЭКСПЕРТЫЗА

## Стан водных рэсурсаў рэгіёну

**По дадзеных Міністэрства па ахове прыроды, стан водных рэсурсаў у нашым рэгіёне ў цэлым здавальняючы.**

Індэкс забруджвання вады у Віліі ніжэй Вілейкі і Смаргоні складаў у сярэднім 0,9 (вада чыстая), а на Ушы ля Маладзечна –1,2-1,5 (умерана забруджаная).

Агульнагарадская сістэма па ачыстцы сцёкавых водаў Валожына была перагружаная. Замест праектных 2,0 тыс. куб. м у суткі фактычна паступала 3,0 тыс. Па гэтых жа дадзеных каля 1,0 тысячы куб. м гальванічных сцёкаў з Маладзечанскага станкабудаўнічага завода не ачышчалася. Напамінаем, што гальванічныя сцёкі ўтрымліваюць небяспечныя для чалавека цяжкія металы. На 20% былі перагружаныя і ачышчальныя збудаванні Ашмянаў.

Пасля скіду ў водныя аб'екты сцёкавых водаў з ачышчальных збудаванняў Смаргоні канцэнтрацыя цяжкіх металаў ніжэй дапушчальнай нормы ўзнімалася часам у 6 разоў. Дзеля прыкладу, канцэнтрацыя цяжкіх металаў у Свіслачы ніжэй Мінска перавышае гранічна дапушчальную канцэнтрацыю па цынку ў 9, па нікелю – у 10, па медзі – у 100, па шасцівалентнаму хрому – у 130 разоў.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ПРЫКМЕТЫ

## Прыгледзьцеся да «жывых барометраў»

Жывыя істоты найбольш тонка адчуваюць усе змены ў навакольным асяроддзі.

І не дзіва, бо ад гэтага залежыць іх жыццё. Прырода за мільёны гадоў эвалюцыі выпрацавала такія механізмы рэагавання арганізмаў, якія дазваляюць як найлепш падрыхтавацца да ўсіх неспрыяльных зменаў. Паглядзеўшы на рэакцыю нашых "малодшых братоў", і мы можам прадбачыць і планаваць свае дзеянні. Асабліва зімой, калі дзень малы, а паспець трэба, асабліва ў выхадныя, вельмі шмат. І так, будзем уважлівымі.

- Калі восенню лістота ў бярозы пачынае жаўцець з верхавіны, то зіма будзе ранняй, калі знізу – позняй.

- Калі ў лесе на рабіне шмат чырвоных пладоў, зіма будзе суровая, з моцнымі маразамі.

- Зіма не ўсталюецца да той пары, пакуль з вішань не ападзе лістота.

- Шышкі на ялінах выраслі нізка – да ранніх маразоў, высока – самыя маразы "стукнуць" напрыканцы зімы.

- Мурашнікі з вострым верхам – да суровай зімы.

- Пералётныя птушкі палядзелі рана – да халоднай зімы.

Кошка перад марозам вылізвае цела, хвост, кладзецца "клубком", хавае морду пад лапы. На вецер – шкрабе падлогу, становіцца на заднія лапы і шкрабе сцены. На цяпло – расцягваецца на падлозе.

Сабака на мароз ляжыць "калачыкам", хавае нос паміж лапамі. На снег – качаецца па зямлі, шмат рые. На пацяпленне – спіць на спіне, раскінуўшы лапы.

Свінні ціснуцца адна да адной, зарываюцца, цягаюць салому – на мароз і моцны вецер.

Конь хрыпіць – на завіруху, фыркае – на пацяпленне, кладзецца на зямлю – на снег.

Каровы перад завірухай падымаюць галовы ўгору.

**Алег БЯГАНСКІ.**

# Бабраўнікі – вёска з музеем

**АСТРАВЕЦ. Вёска Бабраўнікі вядомая ў раёне тым, што тут ёсць унікальная бібліятэка-музей, дзе сабраныя рэчы сялянскага побыту XIX і XX стагоддзяў.**

Такі музей – адзіны ў раёне. І гэта ў вёсачцы, якая налічвае чатыры дзесяткі сямей і якая паступова знікае. Маладых сем'яў можна пералічыць па пальцах адной рукі, а вясковую школу зачынілі сёлета з-за таго, што ў мінулым навучальным годзе там вучылася 11 дзяцей.

## Візітная картка

Бабраўнікі – вёска ў Варнянскім сельскім Савеце Астравецкага раёна. Знаходзіцца ў 20 кіламетрах ад Астраўца, на паўночным усходзе Астравецкага раёна. Да бліжэйшай чыгуначнай станцыі Гудагай 24 кіламетры. Жыве 115 жыхароў (паводле перапісу 1999 года). Тыповыя для гэтай мясцовасці прозвішчы – Комары, Петрыкі, Мураўскія, Радзевічы.

Дакладны час утварэння вёскі невядомы. З архіваў вядома, што ў канцы XVII стагоддзя існавала Бабраўніцкае войтаўства, куды разам з іншымі вёскамі ўваходзілі Малыя і Вялікія Бабраўнікі. У XV-XVI стагоддзях Бабраўнікі ўваходзілі ў Высакадворскую воласць Віленскага ваяводства. Упершыню Бабраўнікі згадваюцца ў 1557 годзе.

Бабраўнікі – былы цэнтр сельсавета і калгаса "Звязда". Ёсць бібліятэка, магазін, помнік воінам-аднавяскоўцам, якія загінулі ў часы другой сусветнай вайны. Значных ваенных дзеянняў і партызанскага руху тут не было.

## Сям'я пана Заянчкоўскага

На тэрыторыі вёскі знаходзіўся маёнтак пана Заянчкоўскага. У пачатку мінулага стагоддзя тут жыў пан і 4 яго сястры. Пан меў 70 гектараў зямлі, на яго працавалі парабкі, якія жылі на першым паверсе маёнтка. Сям'я Заянчкоўскіх была адукаваная і свабодна валодала французскай мовай.

Адна з сясцёр пана, якую звалі Эвалінай, працавала гувернанткай у Вільні. Яна вучыла французскай мове дзяцей аднаго знатнага пана. Другая – Антаніна – палюбіла фурмана, які працаваў на пана Заянчкоўскага. За гэта Антаніну выгналі з дому, і ад яе адракалася ўся радня. Паненка з конюхам набылі хатку і пасяліліся ў Свіры. Аднойчы Антаніна прыйшла ў Бабраўнікі, каб праведаць родных. Яе не пусцілі ў маёнтак і спусцілі сабак. Антаніна вярнулася ў Свір і больш у маёнтак не хадзіла.

Трэцяя паненка выйшла замуж у Літву за знатнага графа. Пан Заянчкоўскі памёр у маёнтку і пахаваны на могілках у Міхалішках. Адну з дачок пана пры Савецкай уладзе прымусам вывезлі ў Казахстан. Маёнтак забралі пад сельсавет. У цяжкія часы, калі не было дроў, маёнтак сталі разбіраць на бярвенні. Знішчылі і вялікі панскі сад. На месцы маёнтка застаўся толькі калодзеж і груда камянёў.

## Музей

Музей размясцілі на месцы пачатковай школы, якая займала палову будынка сельскай бібліятэкі. Нягледзячы на тое, што 9 снежня, калі мы былі ў Бабраўніках, быў у бібліятэцы выхадным днём, загадчыца бібліятэкі **Зоя Комар** зрабіла для карэспандэнтаў "РГ" экскурсію па музеі і па вёсцы.

Першыя экспанаты з'явіліся 4 гады таму. У работнікаў абласнога аддзела культуры з'явілася ідэя арганізаваць краязнаўчы музей менавіта ў Бабраўніках, бо ў хатах вяскоўцаў захавалася многа старажытных рэчаў. І калі Зоя Комар абыходзіла па сваёй рабоце сваю і суседнія вёскі, яна расказала аб такой ідэі. Спачатку па экспанаты давялося хадзіць, пасля вяскоўцы сталі прыносіць самі. Цяпер музей займае пакой і калідор, а экспанатаў – больш за сотню.

Захаваўся падсвечнік з маёнтка пана Заянчкоўскага, здымак маёнтка, люстэрка, ў якое глядзеліся паненкі Заянчкоўскія.

На гарышчы аднаго дома знайшлі кросны часоў XIX стагоддзя. Ёсць падсвечнікі, ступа, цапы, прасы. У музеі сабраная калекцыя грошай, пачынаючы з царскіх часоў. Дзеці, што прыходзяць у музей на экскурсію, далажылі сюды і савецкія грошы. У музеі ёсць лапці, іх абувалі, калі ішлі да касцёла, на святы, а ў чунях, якія рабілі з цялячай скуры, хадзілі па гаспадарцы.

Ёсць некалькі кніг. Адна – сямейная хроніка адной мясцовай фаміліі пачатку XX стагоддзя. На першай старонцы напісана: "Няхай жонка будзе адданая мужу, як Богу". Так выхоўвалі тады моладзь. Не тое, што цяпер, калі няпоўныя сем'і на Астравеччыне, ды і ўсюды на рэгіёне не рэдкасць...

Ёсць некалькі малітвеннікаў на польскай і лацінскай мовах. Але якіх яны часоў, цяжка вызначыць. Тыдзень таму знайшлі вагі. Мяркуецца, што яны XVI стагоддзя.

Музейная справа захапляе. Зоя Комар гаворыць, што ніколі не думала, што будзе займацца гэтай справай.

– У дзяцінстве гуляла ў хованкі на руінах панскага маёнтка, раскопвала разам з іншымі рэшткі керамікі і нікому не прыходзіла ў галаву сабраць гэта ўсё разам. А цяпер бачу, што трэба захаваць для наступных пакаленняў хоць гэтую спадчыну, каб яны ведалі, што было на іх зямлі, у мінулыя часы. Хаця многае ўжо мы самі і загубілі...

## Таямнічы камень

Паміж Бабраўнікамі і Гервятамі ў лесе ёсць вялікі камень. Ім летась зацікавіліся мінскія археолагі. У каменя верхняя паверхня гладкая, нібы счасаная. Верагодна, што старажытнымі людзьмі. На паверхні відаць правільныя ямкі – літары і страла.

Падчас леташніх раскопак знайшлі абломкі керамікі яўна старажытнага паходжання, а на глыбіні – вуголле. Гэта дае падставы меркаваць, што камень ляжыць на месцы са старажытных часоў. Мабыць, ён служыў нашым продкам-язычнікам ахвярнікам, на які прыносіліся дары багам.

## Людзі

74-гадовая **Вера Тарашкевіч** вядомая ў Бабраўніках тым, што робіць прыгожую вышыўку.

Яе хата нагадвае музей. Там некалькі дзесяткаў вышывак-карцін, безліч вышываных сурвэтак. Акрамя таго, яна актыўная чытачка бібліятэкі.

Калі мы зайшлі ў хату, Вера Іванаўна расказала, што за дзень прачытала палову тоўстага дэтэктыву. А што рабіць зімнімі вечарамі? Гаспадаркі не трымае, тэлевізар не працуе. Навіны з краю і ў свеце даведваецца з "раёнкі".

... Вера Тарашкевіч родам з Варонежскай вобласці. На Астравеччыну прыехала з сям'ёй у 1947 годзе, тым часам выратаваліся ад голаду, які касіў людзей у Расіі. Тады ж навучылася вышываць, жыццё прымусіла. Тады многія ўмелі.

Не тое, што цяпер. Некаторыя рэчы аддаю дачцэ, якая жыве ў Мінску. Гавару, вучыся, пойдзеш на пенсію, вольнага часу стане больш, будзеш сваім дзецям вышываць. Гаворыць, што ты, мама, ужо для ўсіх павышывала.

Тэмы для вышывак Вера Тарашкевіч бярэ з часопісаў. Убачыць прыгожы малюнак і зробіць вышыўку. Ніткі ці купляе, ці разбірае старую рэч.

Калі спытаўся, аб чым гаварыць на вёсцы, Вера Тарашкевіч сказала, што аб цяжкім жыцці вяскоўцаў. Пенсію дабавілі на 6 тысяч, затое і цэны выраслі. Толькі гаварыць скора не будзе з кім. Запусцелі амаль усе суседнія хаты.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**Вера Тарашкевіч з Бабраўнікаў вядомая сваёй вышыўкай.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.



**Будынак Бабраўніцкай бібліятэкі. Першая сельская бібліятэка пабудаваная ў 1955 годзе. Першы загадчык бібліятэкі – Марыя Астроўская. З 1991 года бібліятэкай загадвае Зоя Комар. Кніжны фонд цяпер складае 3,4 тысячы экземпляраў. З 1 ліпеня бібліятэцы надалі статус бібліятэкі-музея.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.



**Каплічка пры ўездзе ў Бабраўнікі. Пабудавалі яе ў 1856 годзе. У сярэдзіне XIX стагоддзя ў Бабраўніках захварэла і памерла многа людзей ад халеры. Мясцовы святар прапанаваў на скрыжаванні дарог пабудаваць каплічку, каб прасіць Бога адвесці навалу. Калі каплічку пабудавалі, святар сабраў усіх людзей з вёскі і асвяціў каплічку. Навала адступіла, каплічка захавалася да цяперашняга часу.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.




**Малітвеннік з бібліятэкі-музея ў Бабраўніках.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.



**Калекцыя старых і сучасных грошай у музеі.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ ТУРЫЗМ

# Першы зімовы паход

**Мінулай зімой "Рэгіянальная газета" пісала пра турыста-адзіночку з Мінска Валерыя Расольку, які падарожнічаў на веласіпедзе ў лютым.**

— А нам што, "слабо", — падумалі хлопцы з "Пілігрыма". А самае галоўнае, не толькі падумалі, а і здзейснілі спартыўнае зімовае падарожжа на веласіпедах другой катэгорыі складанасці. Умовы для гэтага склаліся прымальныя. Быў ужо вопыт падарожжаў у кастрычніку-лістападзе. Снегу на дварэ не было. І з 3 снежня невялікая група ў складзе **Аляксандра Шацілы** (Радашкавічы), **Мікалая Кавалькова** (Мінск), **Мікалая Чыркова** і аўтара гэтых радкоў з Маладзечна адправілася ў паход. Маршрут праходзіў праз Вілейку, Мядзел, Паставы, Глыбокае, Докшыцы, Бягомль, Лагойск, Маладзечна – больш за 400 кіламетраў.

Цяжкасці былі. Гэта і мароз (метэаролаг Аляксандр Шаціла вёў штранні і скурпулёзна запісваў), які быў да 15 градусаў, вецер, кароткі дзень, фізічныя нагрузкі. Былі і плюсы. Сухія дарогі без гразі, той жа мароз, які не даваў расслабляцца і доўга затрымліваццa на прывалах. А самае галоўнае – сустрэчы з цікавымі новымі людзьмі і старымі сябрамі. Іх гасціннасць і цеплыня запомняцца надоўга.

Усе веласіпеды ў групе былі айчыннай вытворчасці – Мінскага мотавелазавода. Два самыя звычайныя "дарожнікі" прайшлі проста цудоўна. Два хуткасныя патрабавалі большай увагі і дробнага рамонту. А ў цэлым веласіпеды добра вытрымалі зімовае выпрабаванне. Дзякуй рабочым рукам, якія іх рабілі!



Удзельнікі веласіпеднага зімовага паходу Мікалай Кавалькоў, Аляксандр Шаціла і Мікалай Чыркоў ля вёскі Фяркі ў Пастаўскім раёне. Фота Сяргея БЯЛКОВА.

Не вытрымаў толькі, сапсаваўся і даваў збоі на марозе велакампʼютэр.

У Пастаўскім раёне ад вёскі Данілавічы да Глыбокага група ехала па дарозе, па якой у 1812 годзе праходзіў Напалеон. Непадалёку ад цяперашняй чыгуначнай станцыі Навадруцк ён разбіў свой паходны шацёр. Ёсць такая легенда. У час снедання знайшоў ён месца знаходжання вёскі вельмі прыгожым, падобным на зялёныя ўзгоркі прыгарадаў Парыжа. Банапарт паклікаў да сябе мясцовага ўладальніка вёскі і яго сялян, спытаў назву паселішча і загадаў ад гэтага часу называць яго Парыжам. З тых часоў гэтая назва так і захавалася за вёскай. Цяпер вёска Парыж злілася з Навадруцкам. Я ведаю людзей, у якіх у старым пашпарце месцам нараджэння была запісана вёска Парыж.

**Сяргей БЯЛКОЎ,**
**кіраўнік групы.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# «Залатая міля»

**МАЛАДЗЕЧНА. 15 гадоў запар праходзяць у лёгкаатлетычным манежы цікавыя бегавыя спаборніцтвы "Залатая міля".**

Маюць яны рэспубліканскі статус, але часам прыязджае хтосьці з блізкага замежжа. Сёлета былі прадстаўнікі Гусева Калінінградскай вобласці Расіі. Таксама падʼехалі восем калектываў з розных куткоў Беларусі. З нашага рэгёну акрамя гаспадароў былі смаргонцы (31 чалавек, трэнеры **Станіслаў** і **Алена Барташэвічы, Аляксандр Капцюг**), 9 валожынцаў (трэнер **Аляксандр Чарняўскі**) і 2 віляйчаніны (трэнер **Алег Губіч**). Асобныя дыстанцыі сярод малодшых узростаў сабралі больш за дваццаць удзельнікаў. Асноўнай дыстанцыяй была міля – 1609 метраў. Самыя малодшыя беглі вярсту – 1097 метраў.



Алена Куцкевіч на мінулых выхадных устанавіла рэкорд на лёгкаатлетычных спаборніцтвах "Залатая міля". Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Прызёрамі сталі наступныя нашы землякі.

Хлопцы.

1990-91 г.н. 1. **Сяргей Гарадзецкі** (Маладзечна).

1988-89 г.н. 1. **Павел Вашанка** 2. **Павел Крушынскі** (абодва з Маладзечна). 3. **Аляксей Карабко** (Смаргонь).

1986-87 г.н. 1. **Яўген Мучынскі** (Маладзечна). 2. **Дзмітрый Граматоўскі** (Смаргонь). 3. **Аляксандр Камінскі** (Маладзечна).

1984-85 г.н. 1. **Павел Соніч** 2. **Сяргей Шынкевіч** (абодва – Маладзечна).

Дарослыя. 1. **Руслан Садоўскі** 3. **Аляксандр Жаўняровіч** (абодва – Маладзечна).

Дзяўчаты.

1988-89 г.н. 3. **Алена Сёмкіў** (Маладзечна).

1986-87 г.н. 1. **Марына Колбун** (Маладзечна). 2. **Кацярына Паслед** (Вілейка).

Абсалютна лепшы час паказалі Руслан Садоўскі і Алена Куцкевіч, якая выступала па-за межамі ўзроставых катэгорый. На працягу апошніх пяці гадоў фіксуюцца рэкорды турніру для розных узростаў. Сёлета іх устанавілі Мучынскі (4.28,7) і Куцкевіч (5.15,3).

У дзень прыезду каманд была праведзеная эстафета 4#400, у якой удзельнічалі адна дзяўчына і трое хлопцаў ад кожнай з каманд. Усяго было шэсць калектываў. Тры першыя месцы занялі гаспадары.

1. Куцкевіч, Мучынскі, Садоўскі, **Максім Церах**.
2. Колбун, Камінскі, Шынкевіч, Соніч.
3. **Алена Лісоўская**. **Сяргей Зелянко, Дзмітрый Пракапеня**, Жаўняровіч.

Дзве верхнія прыступкі за выхаванцамі **Леаніда Арцемʼева**, на трэцій – падапечныя **Пятра Лісоўскага**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

# Прыйдзе новы трэнер

Праясняюцца планы існавання ў будучым годзе клуба "Маладзечна-2000".

Бюджэтнае фінансаванне плануецца на тым мінімальным узроўні, які быў у другім крузе мінулага сезона. Зразумела, што гэтага недастаткова. Гэтак жа зразумела, што клуб сам павінен зарабляць грошы ад сваёй камерцыйнай дзейнасці. Зараз кіраўніцтвам горада і клуба прапрацоўваюцца канкрэтныя схемы, па якіх клуб зможа сам зарабляць.

Што тычыцца даўгоў перад футбалістамі, то "гарадскія" мяркуецца аддаць да Новага года. А большая частка "спонсарскіх" будзе пагашана тады, калі "Тарпеда-МАЗ" нарэшце разлічыцца за пераход траіх гульцоў перад другім кругам. Калі мінчане гэтыя грошы не выплацяць (каля 8,5 тысячы долараў), то вымушаны будуць выступаць толькі ў другой лізе. Закончыўся тэрмін іх арэнды **Дзмітрыя Кабельскага**, і ён не супраць вярнуцца.

У чэмпіянат ФК "Маладзечна-2000" будзе заяўляцца як закрытае акцыянернае таварыства (ЗАТ).

На пасаду галоўнага трэнера афіцыйна запрошаны вядомы спецыяліст Вячаслаў Акшаеў. Ён будзе працаваць у Маладзечне, калі яго задаволяць прапанаваныя ўмовы. Відаць, гэта тычыцца і ўмоў для гульцоў, бо Акшаеў вядомы сваім бацькоўскім стаўленнем да падначаленых футбалістаў. Магчыма, у клуб прыйдзе і яго даўні памочнік Ігар Гасюта. Разам з тым, ніхто не збіраецца адмаўляцца ад паслуг цяперашніх трэнераў "Маладзечна-2000" Аляксандра Кісценя, Аляксандра Гармазы і Андрэя Найдзіча.



Вячаслаў Акшаеў атрымаў запрашэнне ўзначаліць "Маладзечна-2000". Архіў "РГ".

Пра Акшаева хацелася б адзначыць толькі адно. Ён прыйдзе ў маладзечанскі клуб з самымі найлепшымі дасягненнямі сярод усіх папярэдніх трэнераў. Напрыклад, Сяргей Бароўскі зрабіў сабе імя якраз у Маладзечне, а зборнай кіраваў ужо потым. Людас Румбуціс жа мае горшыя дасягненні, чым Акшаеў. На рахунку Акшаева бронза віцебскай "Дзвіны" у чэмпіянаце-1994/95, бронза віцебскага "Лакаматыва-96" у 1997-м, перамога ў Кубку Беларусі з "Лакаматывам-96" у 1998-м, бронза "Гомеля" у 1999-м, нарэшце, чэмпіёнства бабруйскай "Белшыны" у 2001-м, пры гэтым багаты досвед еўракубкавых матчаў. У якасці гульца ён быў адным з лідэраў віцебскіх каманд у другой лізе чэмпіянату СССР, дзе правёў 12 сезонаў з 1976 па 1988 гады.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДЗІЦЯЧЫ ФУТБОЛ

## Лепшыя ў вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА. Падведзены вынікі абласнога чэмпіянату сярод ДЮСШ, які праводзіўся з удзелам сямі школ па чатырох узростах.**

Першае агульнае месца за маладзечанцамі, другое – у жодзінцаў, на трэцім – Марʼіна Горка. З маладзечанскіх каманд першыя месцы занялі выхаванцы **Анатоля Ішчанкі** (1988 г.н.) і **Яўгена Цярэшчанкі** (1991 г.н.). Другія месцы ў падапечных **Андрэя Найдзіча** (1989 г.н.) і **Аляксандра Гармазы** (1990 г.н.). У абодвух выпадках іх апярэдзілі жодзінцы.

У хлопцаў 1987 г.н. (трэнер **Валерый Вятроў**) сёлета праходзіла абласная спартакіяда навучэнцкай моладзі. На фінальным турніры сталі чацвёртымі, прапусціўшы наперад прадстаўнікоў Жодзіна, Барысава і Дзяржынска.

Каманда 1986-87 г.н. (трэнеры **Сяргей Карыцька** і Валерый Вятроў) удзельнічала ў абласных адборачных спаборніцтвах да рэспубліканскага турніру "Крышталны мяч". Стала трэцяй пасля жодзінцаў і салігорцаў. Права выступіць у наступным сезоне на рэспубліканскім узроўні ёсць, аднак канчаткова ўсё вырашаць фінансавыя магчымасці.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

14-15 снежня, Маладзечна, зала ЗМК

Чэмпіянат па міні-футболу, папярэдні этап. Збяруцца каля 16 каманд з горада і раёна

Пачатак з 10-00

**Табло**

■ ДЗЮДО

МАЛАДЗЕЧНА. Прайшоў чэмпіянат вобласці сярод мужчын. Сабралася дзесяць каманд.

У неафіцыйным заліку мацнейшая тройка такая: Маладзечна (трэнер **Вячаслаў Дзеравянка**), Жодзіна, сталічная МАСДЮШАР.

У асобных вагавых катэгорыях вызначыліся наступныя маладзечанцы.

Першыя месцы: **Іван Чарнякоў** (66 кг), **Аляксей Язневіч** (звыш 100 кг), **Іван Яцыновіч** (абсалютная катэгорыя).

Другія месцы: **Сяргей Мароз** (81 кг), **Артур Халадзінскі** (абсалютная катэгорыя).

Трэція месцы: **Аляксандр Мойса** (60 кг), **Андрэй Кулёнак** (81 кг), **Артур Халадзінскі** (звыш 100 кг), **Антон Заянчкоўскі** (абсалютная катэгорыя).

Цікава зазначыць, што Марозу і Мойсе ўсяго па 17 гадоў. А, напрыклад, Яцыновічу – 34 гады. І ён стаў мацнейшым у вобласці ўжо ў 16 раз.

МІНСК. Прайшоў рэспубліканскі турнір сярод хлапчукоў 1990-91 г.н. Ездзілі пяць чалавек з Маладзечна. У сваёй катэгорыі перамог **Віталь Шаўлюк**.

■ БАСКЕТБОЛ

МАЛАДЗЕЧНА. Прайшлі занальныя спаборніцтвы ў абласным чэмпіянаце сярод мужчын. Каманды размеркаваліся наступным чынам: 1. Маладзечна. 2. Вілейскі раён. 3. Заслаўе. 4. Маладзечанскі раён. 5. Пухавіцкі раён.

У заключны этап прабіліся дзве першыя каманды. Лік сустрэч маладзечанцаў супраць адпаведных сапернікаў, стаўшых ніжэй у табліцы – 51:42, 86:81, 59:48, 60:41. Кіравалі калектывам **Леанід Казлоў** і **Анатоль Яфімаў**. Вылучаліся ў складзе **Алег Сінячэнка, Павел Лінкевіч, Алег Дзэмеш**. Віляйчане перамагалі так – 74:70, 55:39, 69:20. Кіраваў **Іосіф Іваноўскі**, вылучаўся **Мікалай Сазонаў**.

■ МІНІ-ФУТБОЛ

Каманда маладзечанскага ЗМК ездзіла ў Магілёў на рэспубліканскі турнір спартакіяды "па месцы жыхарства".

Заняла другое месца, саступіўшы ў фінале магіляўчанам 2:4. У групавым турніры маладзечанцы мелі нічыю 6:6 з гродзенцамі і перамогу 6:3 над мінчанамі. Амаль палову галоў каманды забіў **Мікалай Татун**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## ВІНШАВАНКІ

Віншуем дарагога сыночка **Дзіму Апяцёнка** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, поспехаў у вучобе, удачы. *Мама, тата, Ірынка.*

**Аксане Галавач**. Желаем жить, как в дивной сказке, здоровья, сил и красоты, да чтоб сбывались все мечты. *Сястра Юля і Данілка.*

Віншую **Валянціну Бохан** з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, даўгалецця, удачы. Ваша вучаніца *Надзея Дзяруга.*

Віншую **Вадзіма Штурыча** з Вілейкі з днём нараджэння! Жадаю выдатных поспехаў у вучобе і моцнага здароўя. *Мама.*

Віншуем з 18-годдзем **Анастасію Смолік**! Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго самага найлепшага. *Сям'я Смолікаў.*

**Ірына Канстанцінаўна Пішчака**, з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, поспехаў у асабістым жыцці. *Катажына, Зоя, Тарэса, Рэгіна.*

**Сонейка**, з днём нараджэння! Желаю тебе только радостных дней, здоровья, достатка и верных друзей. *Я.*

Віншуем **Надзею Васільеўну Супрановіч** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя. *Калектыў дз/с №5 з Вілейкі.*

Віншуем **Вову Дуброўскага** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага. *Аднакласнікі.*

Віншую **Анастасію Аблачынскую** з 15-годдзем! Жадаю шчасця, кахання, поспехаў у вучобе, здароўя. *Надзя Дзяруга.*

Віншую **Таццяну Дзяругу** з юбілеем! Жадаю здароўя, шчасця, весялосці, доўгіх гадоў жыцця. *Дачка Надзя.*

Віншуем **Таццяну Дзяругу** з юбілеем! Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у працы. *Маці Ніна, бацька Казя.*

Віншую **Аню Кельпут** з днём нараджэння! Жадаю шчасця, здароўя, усяго найлепшага. *Света.*

Віншую дарагую сяброўку **Вераніку Мароз** з 18-годдзем! Жадаю здароўя, кахання, добрых сяброў, шчасця. *К.Клепча.*

Віншуем **Галіну Рыгораўну Багуцкую** з днём нараджэння! Жадаем табе шчасця, здароўя і ўсяго найлепшага. *Андрэй, Наташа, Лена*

Віншуем **Сяржу Рухлю** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, удачы. *Сябры.*

Віншуем **Алу, Дзіму** і **Уладзіка** з наваселлем! Чакаем запрашэння ў госці! *Сям'я сястры.*



## ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына прыемнай знешнасці, 50/160/70, пазнаёміцца з мужчынам для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п МС 0171772.

Пазнаёмлюся з мужчынам для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 44/160/62. Маладзечна-6, п/п МС 0535633.

Удавец 1943 г.н., рост 170, пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п МС 0535633.

■ ПАДПІСКА-2003

# Конкурс для падпісчыкаў

Тыя, хто аформіць падпіску на наступны квартал ці паўгоддзе, прэтэндуюць на прызы ад "Рэгіянальнай газеты".

Для гэтага трэба даслаць ксеракопіі ці арыгіналы падпісных абанементаў на адрас рэдакцыі да 6 студзеня ўключна. Розыгрыш прызоў адбудзецца ў кінатэатры "Радзіма".

Падпісчыкаў чакае вечар пры свечках на дваіх, картачка госця маладзечанскага кафэ "Блюз" і іншыя прызы. Вынікі розыгрышу вы ўбачыце на нашых старонках.

**"Рэгіянальная газета"**



Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь
АБАНЕМЕНТ НА ГАЗЕТУ
Рэгіянальная газета

63212 (63369)
(індэкс выдання)

Колькасць

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літара

63212 (63369)
(індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА ГАЗЕТУ
Рэгіянальная газета

Кошт | падпіскі | Колькасць

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## Кінатэатр «Радзіма»



**13-15 снежня**

Захапляльны баявік **"Фарсаж"**, ЗША – у 17.00 і 21.00 (у чацвер на 17.00 – ільготныя білеты).
Відовішчны фільм **"Людзі ў чорным-2"**, ЗША – у 19.00. 14 і 15 снежня – у 15.00 і 19.00.

**16-19 снежня.**

Відовішчны баявік **"Поўны прывод"**, Францыя – у 17.00 і 21.00 (у чацвер на 17.00 – ільготныя білеты). Рамантычная камедыя **"Джо Нехта"**, ЗША – у 19.00.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

14 снежня – **"Медзведзяня ў космасе"**, Польшча, казка – у 13.00.
15 снежня – **"Пакахонтас"**, ЗША, мультфільм – у 13.00.
2-і паверх, БАР. ДЫСКАТЭКА "Медыум". У 21.00 у пятніцу, суботу – для моладзі. У 17.00 у суботу і нядзелю — для школьнікаў.
Кінатэатр "Радзіма" і дыскабар "Медыум" віншуюць усіх з наступаючымі Калядамі і Новым годам і запрашаюць цікава і весела адзначыць гэтыя святы. Вас чакаюць святочная навагодняя дыскатэка, гульні, конкурсы, сюрпрызы ад Дзеда Мароза і Снягурачкі. Уваходны білет 4500 руб. Прымаюцца калектыўныя заяўкі. Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ УЗНАГАРОДЫ

## Прэмія ў галіне абароны правоў чалавека

Рашэнне аб прысуджэнні пятай Нацыянальнай прэміі ў галіне абароны правоў чалавека было прынятае 10 снежня, у Дзень прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

На пасяджэнні аргкамітэта было прынята рашэнне - у 2002 годзе уручыць прэмію ў намінацыі «За асабістую мужнасць»:

Зінаідзе Ганчар – жонцы без весткі прапаўшага ў 1999 годзе віцэ-спікера Вярхоўнага Савета Беларусі 13 склікання Віктара Ганчара;

Святлане Завадскай - жонцы без весткі прапаўшага ў 2000 годзе журналіста Дзмітрыя Завадскага;

Ірыне Красоўскай - жонцы без весткі прапаўшага ў 1999 годзе бізнесмена Анатолія Красоўскага.

Жонкі прапаўшых не здаліся, не зламаліся перад тварам самай страшнай трагедыі іх жыцця. Мужныя жанчыны працягваюць задаваць рэжыму пытанні, зноў і зноў удзельнічаюць у акцыях пратэсту, вядуць актыўную міжнародную дзейнасць.

А таксама прэмія ўручана Міколу Маркевічу - галоўнаму рэдактару закрытай уладамі газеты «Пагоня»;

Паўлу Мажэйку - журналісту закрытай уладамі газеты «Пагоня»;

Віктару Івашкевічу - галоўнаму рэдактару газеты «Рабочы».

Журналісты былі несправядліва асуджаны за сваю прафесійную дзейнасць і прыгавораны да абмежавання свабоды і выпраўленчых работ за тое, што крытыкавалі ў сваіх выданнях дзеючую ўладу.

Прэмія ў абарону правоў чалавека была заснаваная незарэгістраванай грамадзянскай ініцыятывай Хартыя'97 у 1998 годзе. Прэміяй за ўвесь час яе існавання ўзнагароджваліся вядомыя грамадскія і культурныя дзеячы, творчыя калектывы, палітыкі і журналісты.

**Па матэрыялах www.charter97.org**

■ ІМЯНІНЫ

**13 снежня**

**Праваслаўныя**: Андрэя Першазванага.
**Каталіцкія**: Атыліі, Люцыі.

**14 снежня**

**Праваслаўныя**: Ананіі, Навума.
**Каталіцкія**: Альфрэда, Ізыдара, Яна.

**15 снежня**

**Праваслаўныя**: Авакума, Андрэя, Антона, Апанаса, Івана, Феафіла.
**Каталіцкія**: [redacted]і, Цэліны, Валяр'яна.

**16 снежня**

**Праваслаў**[redacted]на, Савы, Сафрона, Фё[redacted]
**Каталіцкія**: [redacted], Альбіны, Эўзебіюша.

**17 снежня**

**Праваслаўныя**: Варвары, Ульяны.
**Каталіцкія**: Алімпіі, Лазара, Яна.

**18 снежня**

**Праваслаўныя**: Гурыя, Захара, Савы.
**Каталіцкія**: Багуслава, Грацыяна.

**19 снежня**

**Праваслаўныя**: Мікалая.
**Каталіцкія**: Дарыуша, Урбана.

■ ТВАЁ ІМЯ

## Ганна – увасабленне рускай жанчыны

Справядлівая, бескампраміснная. Ганна звычайна стрыманая, нервовыя зрывы бываюць нячаста.

У рабоце добрасумленная, старанна і загадзя прадумвае свае планы. Верная, добрая і ласкавая. Любіць дзяцей. Уважлівая да блізкіх – увасабленне рускай жанчыны. Не паддаецца чужому ўплыву і сама дзейнічае дабратворна на навакольных. У Ганны добрая памяць, вялікая сіла волі, і яна хоча мець усё і тут жа. Верыць толькі ў сябе. Лёгка аказвае супраціўленне ўсяму, што перашкаджае ёй у жыцці. Помслівая ганарлівка, канфліктная, скандальная. Ганна не слухае чужых парадаў, якія б карысныя яны ні былі. У школе ў яе заўсёды шмат праблем: канфліктуе з аднагодкамі, спрачаецца з настаўнікамі. Яе мара – стаць артысткай. Але часцей яна становіцца мастаком, скульптарам, можа дасягнуць жадаемага і стаць спявачкай. У яе цудоўны слых. Мае незвычайна развітую інтуіцыю. Яна валодае дарам яснабачання. Прадчувае падзеі, разгадвае сны. Абаяльная. Мужчыны вельмі рана пазнаюць чары яе кахання. Мысліць празмерна аналітычна. Яе рысіныя вочы нічога не прапускаюць, а дзякуючы прыроджанай мілавіднасці і абаянню, можа схіліць на свой бок каго захоча. У выбары сяброў і знаёмых вельмі разборлівая. Любіць толькі тое, што ёй належыць. Гэта каралева, якой патрэбная світа. Ёй здаецца, што яна мае права распараджацца нормамі і звычкамі, мяняць іх па сваім меркаванні.

Прафесію выбірае сама. Можа быць медыкам, асаблівае яе прываблівае парамедыцына. Умее прыгожа расказваць аб зусім простых рэчах і прымушае прыслухоўвацца да сябе субяседнікаў. У зносінах разборлівая. Прымае гасцей, але толькі тых, каго любіць, бо іншых можа выставіць за дзверы. Было б добра, каб Ганна ў мужы выбрала сабе флегматыка. Такі шлюб быў бы моцным.

Калі вы хочаце зрабіць Ганне прыемнае, падарыце ёй крышачку аптымізму і лёгкіх адносін да жыцця.

**Купон 50** Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

